Газета творчай інтэлігенцыі Беларусі

ЛіМ

Літаратура і мастацтва

ISSN 0024-4686

№ 10 (4708) 7 сакавіка 2013 г.

## Пункціраму

✔ Двухбаковая вынасная ікона XVIII стагоддзя ўпершыню за апошнія 42 гады была прадстаўлена ў Мінску, у Нацыянальным гістарычным музеі Беларусі. Гэта стала магчымым дзякуючы Міністэрству культуры нашай краіны і калектыву Белрэстаўрацыі.

✔ Бюджэтнае фінансаванне сферы культуры Гомельскай вобласці ў гэтым годзе складзе каля 682 мільярдаў рублёў. Асноўная частка сродкаў будзе накіравана на будаўніцтва і рамонт устаноў культуры, рэстаўрацыю гісторыка-культурных аб’ектаў і іншыя мэты.

✔ Фонд дзяржаўных музеяў Мінскай вобласці ў мінулым годзе папоўніўся больш як 9 тысячамі прадметаў. Гэты факт выклікаў павелічэнне колькасці наведвальнікаў: летась у музеі вобласці завіталі амаль 590 тысяч чалавек.

✔ Анімацыйная лента беларускага рэжысёра Міхаіла Тумелі «Як служыў я ў пана» з цыкла «Музычная скарбонка» атрымала прыз журы ў намінацыі за лепшае гукавое рашэнне на 18-м Адкрытым расійскім фестывалі анімацыйнага кіно ў Суздалі. Яшчэ адзін беларускі мультфільм — «Піліпка» Таццяны Кубліцкай — адзначаны дыпломам «За тапаграфію казачнасці». Усяго на конкурс было прадстаўлена пяць работ айчынных аніматараў.

✔ Арт-кафэ з’явіцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі. Там плануецца праводзіць лекцыі мастацтвазнаўцаў, выстаўкі, тэматычныя вечарыны і прэзентацыі кніг. Выставачныя праекты арт-кафэ распачала экспазіцыя маладой мінскай мастачкі Ганны Сілівончык «Столік на дваіх».

✔ З 4 сакавіка па 1 красавіка школьнікаў краіны запрашаюць да ўдзелу ў міжнародным конкурсе дзіцячых казак пра сучасную Беларусь. Конкурс праходзіць у межах праекта, прысвечанага дыялогу паміж Захадам і Усходам у цэлым і Беларуссю і Аманам, у прыватнасці. Лепшыя работы будуць перакладзены на арабскую мову, праілюстраваны ўдзельнікамі конкурсу з Амана і выдадзены на трох мовах: беларускай, арабскай і англійскай.

✔ Беларусьфільм пачаў працу над працягам камедыі «Белыя росы». Карціна (аўтары сцэнарыя Аляксей Дудараў, Аляксандра Бутар і Юлія Гірэль, рэжысёр-пастаноўшчык А. Бутар) з’яўляецца пераможцай конкурсу кінапраектаў на вытворчасць фільмаў з рэспубліканскага бюджэту. Выхад на экраны запланаваны на вясну 2014 года.

**Падрыхтавала Таццяна МАСТОЎСКАЯ**



4 Адметны дар Алы Кабаковіч



13 Зачараваныя музыкай. «Чараўніцы» вяртаюцца!



15 Успомніць усё... Запрашэнне ў музей



Фота Кастуся Дробава

## Вера ВЯРБА

* * *

*Усё ў жыцці здаецца проста,*
*На ўсё вы знойдзеце прычыны.*
*Як гэта цяжка быць дарослай,*
*Як гэта цяжка быць жанчынай.*

*Насустрач плёткам і абразам*
*Пранесці горда твар прыгожы,*
*Затое быць з каханым разам,*
*І ў гэтым толькі шчасце, можа.*

*А потым старасць, потым восень,*
*Хаваеш першыя маршчыны.*
*Хоць уваччу ўсё тая ж просінь,*
*Ды сэрца ные без прычыны.*

*Дачка сама адрэжа косы,*
*І расказаць ёй немагчыма,*
*Як будзе цяжка жыць дарослай,*
*І ў колькі раз цяжэй — жанчынай.*

◂ *Марына Петрашкевіч, бібліятэкар І катэгорыі дзіцячай бібліятэкі № 8 г. Мінска*

## Пытанне да творцы

# Каму з літаратурных гераінь вы падарылі б кветкі?



**Алег Елісеенкаў, кампазітар:**

— Гэту гераіню я памятаю па экранізаваным рамане М. Чаргінца «Вам — заданне». Гісторыя не выдуманая — Мікалай Чаргінец даведаўся пра яе не з кніг. Жылі ў вёсцы муж, жонка, двое дзяцей. Падчас вайны жонка атрымала на мужа пахавальную, а муж даведаўся пра знішчэнне вёскі, дзе засталася жонка з дзецьмі. Але так здарылася, што ўсе выжылі. Муж вярнуўся ў райцэнтр, дзе неўзабаве збіраўся стварыць новую сям’ю. Неяк на чыгунцы шляхі перакрыжаваліся. Дзеці першымі ўбачылі і пазналі бацьку. Радасць, мілаванні... Няспраўджаная новая жонка бацькі (яе ролю выконвала Валерыя Арланава) ціха адыходзіць, каб не замінаць сустрэчы.

«Плачет белая берёза...», песня, да якой я напісаў мелодыю, суправаджала роспач гэтай жанчыны. Яна ахвяравала сваім шчасцем дзеля шчасця іншых людзей. Ёй бы падарыў я кветкі.



**Казімір Камейша, пісьменнік:**

— Так, у паэта павінна быць такая гераіня. Імя яе тое ж, купалаўскае — Яна. Памятаеце назву «Яна і Я»?

*Ніякае гэта не дзіва,*
*Іду па жыцці не адзін я,*
*Бо ходзіць па свеце жанчына,*
*І сэрцам мая, і вачыма.*

*Дзе трэба, мяне падтрымае,*
*Падасць цераз далеч руку.*
*Сустрэне і ў познім трамваі,*
*І ў раннім чужым цягніку.*

Жанчына сама па сутнасці кветка. А хіба можна дарыць кветцы кветку? Толькі сонца, многа сонца, якога заўсёды павінна быць шмат у сэрцы паэта!..



**Алег Молчан, кампазітар:**

— Па-першае, лічу, што жанчына заслугоўвае кветак штодня, а не толькі раз на год. І таму, што яна шмат робіць увогуле ў жыцці, і таму, што яна стварае паспяховага мужчыну. Напалеон Хіл казаў: «Забярыце ў мільярдэра яго жанчыну — і ён не захоча сваіх мільярдаў!» Мая галоўная муза — жонка Ірына.

Якой «мастацкай» музе падараваў бы кветкі? Так, ведаю адну, каханне якой шмат значыла для ўзыходжання адной з найбольш славутых беларускіх постацей. Гэта Маргарыта, жонка Францыска Скарыны. Калісьці, да 20-годдзя «Песняроў» і 500-годдзя Скарыны ў 1989 г. я напісаў мелодыю да песні «Маргарыта» на словы Валерыя Дайнекі. Яна дасюль мяне хвалюе.



**Валерый Максімовіч, паэт, літаратуразнаўца:**

— Падараваў бы Ганны Чарнушцы, Мележавай гераіні з рамана «Людзі на балоце». За што? За выдатныя душэўныя якасці — самаадданасць, здольнасць моцна кахаць, шчыра перажываць. За прыгажосць. Гэта выдатны беларускі тып жанчыны. Такая, дарэчы, і мая жонка. У класічнай літаратуры шмат адпаведных вобразаў. У літаратуры сучаснай яны, можа, і ёсць, але мне не сустракаліся.

*У Саюзе пісьменнікаў Беларусі*

# Вынікі і высновы

Мінскае абласное аддзяленне Саюза пісьменнікаў Беларусі падвяло вынікі працы за 2012 год.

**Уладзімір ГОРЫНЬ**

## НАБЫТКІ

Як адзначыў старшыня аддзялення Алесь Карлюкевіч, на грамадскую дзейнасць пісьменнікаў моцна ўплывала тое, што мінулы год быў абвешчаны Годам кнігі. Паэты і празаікі сустракаліся з чытачамі, праводзілі прэзентацыі сваіх кніг, удзельнічалі ў мерапрыемствах, звязаных з ушанаваннем народных паэтаў Беларусі Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Танка. Адпаведна і адрасамі такой працы былі ў першую чаргу Маладзечна, Стоўбцы, Мядзел, Мар'іна Горка. Сябры Мінскага абласнога аддзялення СПБ выдалі болей кніг. Варта зазначыць творчую актыўнасць празаіка, дзіцячай пісьменніцы Наталлі Голубевай. Яе творчы багаж летась папоўніўся адразу на некалькі кніг. Усе яны пабачылі свет у выдавецтве «Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі».

Цікавым атрымаўся праект «Шляхамі паэтаў», распачаты Мінскім абласным аддзяленнем СПБ сумесна з Мінскай абласной арганізацыяй Беларускага Саюза журналістаў і газетамі «Мінская праўда» і «Звязда». Ён уключаў акцыі, праведзеныя ў Маладзечне, Стоўбцах і Мядзеле. А завяршыўся «круглым сталом» у Мінскай абласной бібліятэцы імя А. С. Пушкіна, па выніках якога было прынята рашэнне адкрыць на старонках газеты «Мінская праўда» новую рубрыку — «Адрасы літаратурнай памяці». Дарэчы, у час «круглага стала» звярталася ўвага на традыцыі літаратурнага краязнаўства ў мас-медыя РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»: найперш — у газеце «Літаратура і мастацтва», часопісе «Маладосць». Актыўны ўдзел у дыскусіях па пытаннях развіцця літаратурнага краязнаўства ўзяў тады ў бібліятэцы Браніслаў Зубкоўскі. А зусім нядаўна пабачыла свет і яго кніга «Сцежкамі Якуба Коласа».

Неаднойчы ў справаздачы старшыні абласнога аддзялення гучала імя паэтэсы з Валожына Валянціны Гіруць-Русакевіч. Яна стварыла і доўгі час кіруе народным літаратурна-мастацкім аб'яднаннем «Рунь». На сходзе ішла размова і пра пашырэнне сеткі падобных творчых калектываў пры раённых бібліятэках і аддзелах культуры райвыканкамаў вобласці.

## УЗНАГАРОДЫ

На працягу мінулага года члены СПБ бралі ўдзел у розных літаратурных конкурсах. Асабліва вызначыўся Дзмітрый Вінаградаў, які стаў пераможцам ледзь не дзясятка конкурсаў міжнароднага ўзроўню. А празаік з Барысава Алена Брава адзначана расійскім літаратурным медалём імя К. Сіманава. Таксама Алена з'яўляецца пераможцам выдавецкага конкурсу «Сярэбраная куля» (ЗША). Як адзнака такой перамогі — выданне адразу трох кніг А. Брава на рускай мове ў ЗША. Напрыканцы мінулага года літаратурнымі прэміямі Мінскага аблвыканкама ўзнагароджаны паэты Рагнед Малахоўскі, Сяргей Карыцька, празаікі Алена Брава, Алег Буркін, дзіцячыя пісьменнікі Генадзь Аўласенка і Таццяна Дашкевіч. Дарэчы, нельга не назваць і іншых сяброў Мінскага абласнога аддзялення СПБ, якія летась актыўна друкаваліся, — Лідзію Адамовіч, Алеся Камароўскага, Таццяну Мушынскую, Вольгу Савасцюк, Мікалая Гурына, Віктара Сабалеўскага, Аркадзя Жураўлёва, Аляксандра Хазяніна і інш.



*Вольга Савасцюк, Генадзь Пашкоў, Алесь Карлюкевіч, Валянціна Гіруць-Русакевіч.*

Некаторыя творцы атрымалі медалі СПБ «За вялікі ўклад у літаратуру», а гэта Барыс Даўгатовіч, Анатоль Смалянка і Дзмітрый Вінаградаў, дыпломамі «За плённую літаратурную працу, актыўны ўдзел у жыцці СПБ» адзначаны Наталля Голубева, Браніслаў Зубкоўскі, Павел Жукаў. Узнагароды ўручыў першы сакратар Саюза пісьменнікаў Беларусі Генадзь Пашкоў.

## ПРАБЛЕМЫ

Што хвалюе пісьменнікаў? Літаратура, асабліва — дзіцячая. Многія пагадзіліся, што выдаюцца кнігі, якія не патрэбныя чытачу. Кепска і тое, што людзі не ведаюць гісторыі, нават не ўсёй Беларусі, а сваёй «малой радзімы». Вельмі эмацыянальна гаварыў пра гэта публіцыст, гісторык Барыс Даўгатовіч.

Яшчэ адно балючае пытанне звязана з уступленнем у СПБ. Запытаў шмат, і прыёмная камісія проста не паспявае ўсе іх разгледзець. Гэта першае. Другое — сярод кандыдатаў у сябры СПБ нямала людзей, чый літаратурны ўзровень недастаткова высокі. Не ўсе гэта разумеюць. Крыўдзяцца. «Аднак калі прыёмная камісія не будзе працаваць як сіта, то ў дзейнасці і існаванні СПБ увогуле няма сэнсу!» — слушна рэзюмаваў Алесь Карлюкевіч.

Разам з тым, гаварылі пра вялацсь і безыніцыятыўнасць некаторых літаратараў, хто ўсё ж патрапіў у пісьменніцкія шэрагі. У дадатак — катастрафічны недахоп моладзі ў СПБ. У Мінскім абласным аддзяленні толькі 6 чалавек з 62 можна лічыць маладымі пісьменнікамі.

Таксама, па словах Алеся Мікалаевіча, адмыслова для пісьменнікаў у Ждановічах пабудаваны дом. Зрабіла гэта арганізацыя, якая падтрымлівае Саюз, у чым бачыцца асабістая заслуга Мікалая Чаргінца.

У творчых планах — двухдзённая паездка ў Брэст на пачатку красавіка і калектыўны зборнік у РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».

# Пра дзяцей ды разам з імі

**Рыта СТАХ**

На бюро секцыі дзіцячай літаратуры Саюза пісьменнікаў Беларусі абмяркоўваліся пытанні правядзення Тыдня дзіцячай кнігі, а таксама план работы секцыі на год.

Як вядома, у канцы мінулага года старшынёй секцыі быў абраны Уладзімір Мазго, ганаровым намеснікам — Алесь Савіцкі, намеснікам — Алена Масла, адказным сакратаром — Вольга Нікольская.

Пачатак 2013-га пазначыўся ўжо шэрагам мерапрыемстваў. Пісьменнікі бралі ўдзел у юбілейнай вечарыне Міколы Чарняўскага, правялі прэзентацыі кніг і аўтограф-сесіі на ХХ Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўцы-кірмашы, выступалі ў школах і бібліятэках. Афіцыйнае адкрыццё Тыдня дзіцячай кнігі запланавана на 25 сакавіка. У бібліятэках Мінска гэта будуць сапраўдныя святы чытання. Так, у дзіцячай бібліятэцы № 1 прапануюць сустрэчу «Уявi сабе на міг, як бы мы жылі без кніг», дзіцячая бібліятэка № 3 правядзе дзень аднаго аўтара, бібліятэка № 6 прапануе сустрэчу з Аленай Масла «Крышку пра кніжку» ды іншыя.

Старшыня секцыі дзіцячай літаратуры Уладзімір Мазго пазнаёміў прысутных з праектам плана працы на год. У яго абмеркаванні ўзялі ўдзел пісьменнікі Алесь Савіцкі, Мікола Чарняўскі, Віктар Гардзей, Ніна Галіноўская, Павел Саковіч, Вольга Нікольская, а таксама старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ Міхась Пазнякоў. Так, сёлета плануецца правядзенне акцыі «Пісьменнікі — дзецям», у межах якой прадугледжаны сустрэчы з юнымі чытачамі, прэзентацыі кніг у садках, школах, гімназіях, бібліятэках. Таксама творцы правядуць майстар-клас з юнымі паэтамі — удзельнікамі літаратурнага аб'яднання «Купалінка» Мінскага раёна.

Падчас абмеркавання плана выказваліся прапановы правесці ў Мемарыяльным зале СПБ «Урокі мужнасці і любові да роднага краю», мацаваць стасункі з дзіцячымі садкамі. Прынята рашэнне зацвердзіць план з улікам выказаных прапаноў.

# Гомельшчына літаратурная

**Міхась СЛІВА**

Выйшаў з друку чарговы, сёмы па ліку альманах «Літаратурная Гомельшчына» (Мазыр, 2012). Яшчэ адзін аб'ёмны том — 255 старонак — папоўніў «Бібліятэку Гомельскага абласнога аддзялення Саюза пісьменнікаў Беларусі».

У зборнік, рэдактарам-складальнікам якога з'яўляецца кіраўнік абласной пісьменніцкай арганізацыі Уладзімір Гаўрыловіч, уключаны новыя творы членаў Саюза пісьменнікаў Беларусі, лаўрэатаў рэспубліканскіх і абласных творчых конкурсаў, літаратараў, якія нарадзіліся на Гомельшчыне і ўслаўляюць яе ў сваіх творах. Змешчана ў кнізе і стваранае маладымі аўтарамі, а таксама пісьменнікамі з памежных рэгіёнаў Расіі і Украіны.

Чытачы альманаха змогуць пазнаёміцца з паэзіяй і прозай, публіцыстыкай і перакладамі больш як дзевяноста аўтараў. На старонках выдання — шмат вядомых і новых імёнаў. Не абыдзена ўвагай і літаратурнае аб'яднанне «Пралеска» Гомельскага раёна, расказваецца і пра пісьменнікаў, якіх ужо няма з намі.

Прадстаўленыя ў альманаху творы знойдуць свайго чытача, бо, па словах аўтара прадмовы і ўкладальніка Уладзіміра Гаўрыловіча, напісаны яны сэрцам, і крылаты выраз «тварыць — значыць жыць!» — не пустыя словы для яго аўтараў.

Калектыў штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва» глыбока смуткуе з прычыны смерці паэта і літаратуразнаўца, былога супрацоўніка газеты Міколы АРОЧКІ і выказвае шчырае спачуванне блізкім і сябрам.

# Гумар — справа тонкая

**Вольга ПАЎЛЮЧЭНКА**

Упэўнена, запрашэнне ў тэлевізійны прайм-тайм удзельнікаў сённяшняй імпрэзы істотна павялічыла б колькасць аматараў беларускай літаратуры. Таму што творы юбіляра Уладзіміра Ермалаева ў аўтарскім выкананні і пакладзеныя на музыку Дзмітрыем Пятровічам, а таксама яго сяброў па сатырычным пяры Міколы Шабовіча, Сяргея Давідовіча, Анатоля Зэкава, Дзмітрыя Дземідовіча і Януся Мальца адметныя перш за ўсё арыгінальнасцю сюжэтаў і палётам думкі.

Юбіляр, кандыдат гістарычных навук, дацэнт, выкладчык мінскіх ВНУ, супрацоўнік Міністэрства адукацыі, яшчэ студэнтам пачаў спрабаваць свае сілы пад сцягам гумару і сатыры. «Пераход колькасці ў колкасць», «Радком па кумпалу», «Дулі будуць апасля» — ужо самі назвы кніг сведчаць: сумна чытачу не будзе.

Старшыня Мінскага гарадскога аддзялення СПБ паэт Міхась Пазнякоў адзначыў вялікі ўклад юбіляра ў развіццё гумару і сатыры і ўручыў Уладзіміру Фаміччу ганаровую грамату і вышэйшую ўзнагароду пісьменніцкай арганізацыі — медаль.

Паколькі вечарына адбывалася напярэдадні 8 Сакавіка, юбіляр ды іншыя выступоўцы не шкадавалі кампліментаў і прысвячэнняў жанчынам. Своеасаблівым падарункам стала і слайд-шоу кветак, здымаць якія так любіць Уладзімір Фаміч. А вершаваныя замалёўкі нашага вірлівага жыцця апладысментамі сустракала поўная зала. Што даказвае: дзякуючы пленнай працы Уладзіміра Ермалаева пачуццё гумару і трапнасці слова ў нас не знікла.

*Стасункі*

# Віртуальная вандроўка

У Дзяржаўным музеі гісторыі беларускай літаратуры ў межах міжнароднага праекта «А. Пушкін і А. Міцкевіч. Скрозь далечыню стагоддзяў...», прымеркаванага да 215-годдзя з дня нараджэння паэтаў, адбыўся майстар-клас па музейнай педагогіцы «У вас у гасцях Пушкінскі запаведнік». З прывітальным словам выступіў намеснік міністра культуры Беларусі Тадэуш Стружэцкі: «Дзейнасць нашых музеяў накіравана ў тым ліку і на максімальнае выкарыстанне музейных прастор іншых краін. Актыўнае супрацоўніцтва беларускіх і замежных устаноў, безумоўна, спрыяе рэалізацыі гэтай перспектывы, а развіццё такіх праектаў будзе цікавым і запатрабаваным». Знаёмства з музеем-запаведнікам Аляксандра Пушкіна «Міхайлаўскае» было віртуальнае — на сайце http://pushkin.ellink.ru, дзе ёсць адметная рубрыка — «Віртуальныя экскурсіі».

**Дар'я ШОЦІК**

*Літабсягі*

# Сябры Купалы

**Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы зладзіў літаратурную вечарыну, прысвечаную памяці выдатных дзеячаў нацыянальнай культуры, творчы і жыццёвы шляхі якіх былі цесна звязаны са славутай постаццю першага народнага паэта Беларусі Янкі Купалы.**

Ала ДРАЖЫНА

Сёлета шырокая грамадскасць адзначае 135-годдзе з дня нараджэння публіцыста, літаратурнага крытыка Уладзіміра Самойлы, 120 гадоў з дня нараджэння класіка нацыянальнай літаратуры Максіма Гарэцкага і першай беларускай паэтэсы-лірыка Канстанцыі Буйло.



Уладзімір Самойла быў адным з першых, хто высока ацаніў паэтычны талент Янкі Купалы. Пры садзеянні У. Самойлы ў маі 1905 года ў газеце «Северо-Западный край» з'явіўся верш «Мужык».

На працягу ўсяго жыцця шчырыя сяброўскія адносіны звязвалі Янку Купалу і Канстанцыю Буйло. Некалі паэт прасіў яе: «Пішыце яшчэ і яшчэ», — і прысвяціў зусім юнай Костцы верш «Мая думка». Менавіта Янка Купала склаў і адрэдагаваў першы зборнік паэтэсы «Курганная кветка», выдадзены ў Вільні ў 1914 годзе.

Тое, што ўжо за савецкім часам пасля выхаду ў Мінску другога зборніка «Світанне» Канстанцыя Буйло не была рэпрэсіраваная, можна лічыць дзівам, якога, аднак, магло не адбыцца, калі б не заступніцтва сяброўкі маладосці — Купалавай жонкі Уладзіславы Францаўны.

Раіса Баравікова, ушаноўваючы светлую памяць паэтэсы, пісала: «Не стала Канстанцыі Антонаўны Буйло — паэта, маці, жанчыны. Не стала пясняркі роднага краю, сваю любоў да якога яна выказала ў адным з самых лепшых вершаў «Люблю»...»

Сардэчныя стасункі паміж Янкам Купалам і Максімам Гарэцкім склаліся ў 1918 годзе ў Смаленску. У сваёй «Гісторыі беларускай літаратуры» апошні змясціў біяграфію Песняра са слоў самога паэта. Вобраз Янкі Купалы створаны Максімам Гарэцкім у апавяданні «Фантазія» і рамане «Віленскія камунары». А ў аповесці «Меланхолія», якая мае выразную аўтабіяграфічную аснову, Гарэцкі нібы ад сябе перадаў жаданне героя, маладога каморніка, сустрэцца ў Вільні з Купалам.

Імпрэза ў гасцінным доме Песняра нагадвала вечарыны пачатку XX стагоддзя. Ганна Запартыка, дырэктар Беларускага дзяржаўнага архіва-музея літаратуры і мастацтва, дзе захоўваюцца ўласныя архівы Максіма Гарэцкага і Канстанцыі Буйло, а таксама Яфім Плаўнік, сын вядомага беларускага пісьменніка Змітрака Бядулі, распавялі пра асяроддзе першага народнага паэта Беларусі. Акунуцца ў тагачасную атмасферу дапамаглі ўдзельнікі беларускага этна-фолк-гурта «GUDA» і вучні Дзіцячай музычнай школы № 10 імя Я. А. Глебава. Завяршыла мерапрыемства прэзентацыя прысвечанай юбілярам выстаўкі з фондаў Дзяржаўнага літаратурнага музея Янкі Купалы.

*Арт-лінія*

Фота Аліса Юневіча



Падчас адкрыцця выстаўкі.

# Лепшае, што ёсць у жыцці

Дзіяна КАРОЛЬ

Мастацкая галерэя «Беларт» да 10 сакавіка запрашае на выстаўку жывапісу Віктара Ціханава «Травы і кветкі».

В. Ціханаў ужо шмат год працуе ў галіне манументальнага і станковага жывапісу. Сярод яго асноўных работ — роспіс вітражоў для вакзала г. Маладзечна, Літаратурнага музея М. Багдановіча ў Мінску, роспіс і разьба для залы прыёмаў гасцініцы Саўміна ў г. Мінску, роспісы царквы Пятра і Паўла ў г. Сямяцічы (Польшча), іканастаса Свята-Мікалаеўскай царквы ў г. Брэсце і г. д. Ён — удзельнік шматлікіх рэспубліканскіх і міжнародных выставак, сябра Беларускага саюза мастакоў, творы яго знаходзяцца ў Нацыянальным мастацкім музеі Беларусі, Музеі сучаснага выяўленчага мастацтва ў Мінску, фондах Беларускага саюза мастакоў, галерэі Крыстобаля Габарона (Іспанія), музеі Акадэміі мастацтваў г. Гранада, Нацыянальнай бібліятэцы г. Мадрыда, музеі сучаснай іспанскай гравюры г. Марбэля, «Zimmerly Art Museum» г. Нью-Брунсвік (ЗША).

Выстаўка «Травы і кветкі» прысвечана, па словах аўтара, самаму лепшаму, што ёсць у жыцці: кветкам і жанчынам. Сам праект нарадзіўся ў мінулым годзе, хаця некаторыя з твораў, якія можна аднесці да так званага інтэр'ернага жывапісу, узяты з папярэдніх цыклаў «Травы», «Снег у чорным квадраце», «Швейцарская цыкла», цыкла, прысвечанага чарнобыльскай трагедыі, і г. д. Апроч жывапісу мастак займаецца роспісам малых дэкаратыўных форм (талерак, бутэлек і г. д.), таму на адкрыцці выстаўкі праводзіўся невялічкі аўкцыён, на якім напярэдадні свята можна было набыць распісаныя аўтарам бутэлькі шампанскага. Але гэта былі не ўсе сюрпрызы, падрыхтаваныя мастаком. Слых гледачоў цешылі творы класічнай музыкі ў выкананні лаўрэатаў абласных, рэспубліканскіх і міжнародных конкурсаў, навучэнцаў і выкладчыкаў дзіцячай школы мастацтваў г. Заслаўя. Як заначыў Валерый Шкурскі, дырэктар Заслаўскай дзіцячай школы мастацтваў, супрацоўніцтва з мастаком пачалося больш як два гады таму падчас штогадовага фестывалю класічнай музыкі ў Заслаўі.

Справа ў тым, што мастак ужо шмат год займаецца дабрачыннасцю: ажыццяўляе цікавыя праекты, ладзіць майстар-класы для дзетак у Беларускім дзіцячым хоспісе ў Бараўлянах.

— У мінулым годзе ў Нацыянальным мастацкім музеі я прадставіў свой праект «Свет, каханне, прыгажосць, бясконцасць» — велізарны твор прыкладна 2 на 3 метры, удзел у стварэнні якога ўзялі каля 300 розных па ўзросце і сацыяльным статусе чалавек з розных куткоў планеты, — распавёў Віктар Ціханаў. — Папрацавалі над карцінай і дзеці з дзіцячага дома ў Бараўлянах, а таксама вучні розных школ Мінска. Насамрэч, я ніколі не займаўся педагагічнай дзейнасцю, але паступова зразумеў, што шмат чаго ўмею, таму магу падзяліцца ўласным вопытам. Магчыма, гэта і на генетычным узроўні, бо мая нябожчыца маці была выкладчыцай пачатковых класаў і ўсё жыццё працавала з дзецьмі. Вось і я вырашыў паспрабаваць. Спадабалася. Цяпер праводжу майстар-класы не толькі ў Беларусі, але і за мяжой. І так ужо амаль 7 год.

*Повязі*

# Пад адным крылом

**Самабытнасць кітайскай культуры даўно прываблівае беларускіх творцаў. Пра гэта сведчыць кніга «Пад крыламі дракона. Сто паэтаў Кітая», што нядаўна пабачыла свет у Выдавецкім доме «Звязда».**

Дар'я ШОЦІК

Прэзентацыя літаратурна-мастацкага выдання адбылася ў галерэі «Лабірынт» Нацыянальнай бібліятэкі Беларусі. Выпуск ажыццёўлены па заказе і пры фінансавай падтрымцы Міністэрства інфармацыі Беларусі і Рэспубліканскага інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Укладальнікам і перакладчыкам зборніка з'яўляецца лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Рэспублікі Беларусь, паэт, галоўны рэдактар часопіса «Полымя» Мікола Мятліцкі. Ён, у сваю чаргу, распавёў:

— Марыў з дзяцінства перасягнуць Вялікую Кітайскую сцяну, каб убачыць, чым жыве гэты народ, што ён даў чалавецтву ў культурным вымярэнні. Бяраш любую страфу кітайскага аўтара любога стагоддзя — быццам у пакой, азораны святлом, уваходзіш у гэтую прастору, якой няма на зямлі, але ёсць духоўна. Мне хацелася, каб у роднай Беларусі пачулі Кітай у дыялектыцы развіцця яго паэтычнага духу.

У прадмове да кнігі дырэктар—галоўны рэдактар Выдавецкага дома «Звязда» Алесь Карлюкевіч падкрэсліў, што Міколу Мятліцкаму ўдалося разглядзець шматвектарнасць кітайскай паэзіі. Мажліва, праца здзейсненая намаганнямі аднаго перакладчыка, справакуе да большай увагі па прадстаўленні кітайскай паэзіі на беларускай мове. Дырэктар Інстытута кітаязнаўства імя Канфуцыя Аляксандр Гардзей распавёў прысутным, што гэта не першы праект, які звязаны з беларуска-кітайскімі культурнымі сувязямі. Прыкладам, не так даўно быў прадстаўлены праект перакладаў твораў Янкі Купалы і Якуба Коласа на кітайскую мову.

Надзвычайны і Паўнамоцны Пасол Кітайскай Народнай Рэспублікі ў Рэспубліцы Беларусь спадар Гун Цзяньвэй адзначыў: «Мы займаемся палітычнымі пытаннямі, адзнакамі эканамічнай сітуацыі. Але самае галоўнае — гэта культурныя сувязі, гуманітарная сфера».



Фота Кастуся Дробава

Спадар Гун Цзяньвэй і Мікола Мятліцкі.

*Абрысы*

Напярэдадні Міжнароднага жаночага дня Дзяржаўны літаратурны музей Янкі Купалы запрасіў на цікавую імпрэзу, якая ладзілася ў салоне «У Паўлінкі». Тут можна было ўзяць удзел у майстар-класе па стварэнні арыгінальных падарункаў для блізкіх людзей. Незвычайныя паштоўкі, кранальныя мяккія цацкі, вытанчаныя ўпрыгожванні і стыльныя аксесуары прыйшліся даспадобы многім наведвальнікам музея, бо галоўная ўласцівасць рэчаў, створаных сваімі рукамі, — душэўная цеплыня, якую майстар укладвае ў работу. А яшчэ ў гэты вечар чароўны Купалаў дом дазволіў кожнаму з прысутных перанесціся ў атмасферу свецкага салона і пайграць на фартэпіяна ці праспяваць раманс-прысвячэнне каханай.

Конкурс эсэ «Які ты, мой Максім Багдановіч?» прысвячаецца 100-годдзю выхаду ў свет «Вянка», адзінага прыжыццёвага зборніка вершаў паэта. «Якімі шляхамі Максім увайшоў у тваё сэрца, на якія роздумы цябе натхняе яго асоба і творчасць, што ты адчуваеш, «размаўляючы» з ім у сваіх думках?» — пытаюцца арганізатары конкурсу, супрацоўнікі Літаратурнага музея Максіма Багдановіча, і чакаюць вашы эсэ. Работы прымаюцца да 10 мая па адрасе: 220029, г. Мінск, вул. М. Багдановіча, 7а. Таксама можна дасылаць эсэ на адрас электроннай скрыні bagdanovich@tut.by, maksimbagdanovich@rambler.ru, пазначыўшы прозвішча, імя, імя па бацьку, узрост і навучальную ўстанову, паштовы адрас і тэлефон. Вынікі конкурсу будуць падведзены 25 мая 2013 года.

Па ініцыятыве старшыні Магілёўскага гарадскога Савета ветэранаў Фёдара Мацькова ў горадзе ў 2009 годзе створана літаратурнае аб'яднанне «Ветэран», у якім налічваецца да двух дзясяткаў чалавек, у большасці сваёй былыя дзеці вайны, а сёння ветэраны Узброеных сіл Рэспублікі Беларусь. У 2011 годзе яны выдалі першы калектыўны зборнік «Запавет нашчадкам», які, нягледзячы на пэўныя хібы, чытачы прынялі станоўча. Сябры аб'яднання часта сустракаюцца з дзецьмі, моладдзю, выхоўваюць у іх любоў да Айчыны, прывіваюць патрыятызм, высокія маральныя якасці, цікавасць да кнігі. Кіраўніком літаб'яднання з'яўляецца прафесійны журналіст Леанід Іскроў. Нядаўна ён адсвяткаваў 75-годдзе.

Абласны семінар-практыкум па фільцаванні (сухім валянні з воўны) прайшоў у Магілёўскім абласным метадычным цэнтры народнай творчасці і культурна-асветнай работы. З гэтай тэхнікай пазнаёміліся больш як 30 майстроў і ўсяго за некалькі гадзін вырабілі з лямцу сімпатычнае кацяня. Праводзіла семінар-практыкум магіляўчанка Ірына Рудая — адзін з вядучых майстроў па валянні ў вобласці. Ірына Мікалаеўна стварае дзіцячыя валяныя цацкі, а таксама непаўторныя жаночыя ўпрыгожванні з лямцу. Засвоіўшы тэхніку, удзельніцы семінара будуць знаёміць з ёй сваіх вучняў. Гэта стане яшчэ адным крокам у развіцці валяння на Магілёўшчыне, якое становіцца ўсё больш папулярным.

# Імя незабыўнае, імя дарагое

**У розных анталогіях і літаратурных даведніках пра Алу Кабаковіч пішуць: празаік, перакладчыца, кандыдат філалагічных навук, і чамусьці забываюцца дадаць — паэт!**

**Раіса БАРАВІКОВА,**
**фота з асабістага архіва Міхася Тычыны**

*Над Гутавам маім*
*Стаяла Мілавіца,*
*Цвіў белым цветам бэз,*
*А месяц — бляскам рос,*
*Каб маладосць мая*
*Паспела надзівіцца*
*На прыгажосць крыла,*
*Што ахінула лёс.*

Я, вядома ж, магу ўявіць і зіхоткую Мілавіцу — зорку Венеру над вёскай Гутава, дзе 7 сакавіка 1943 года нарадзілася пісьменніца, і белы бэз, і бліскучыя росы, а вось маладосць — гэта ўжо не ўяўленне, гэта ў нейкай ступені і мае гады маладыя. Так сталася, што нашы жыццёвыя сцежкі сышліся. У такім ужо далёкім 1966 годзе мы паступілі ў маскоўскі Літаратурны інстытут імя М. Горкага на аддзяленне мастацкага перакладу, трапілі ў творчы семінар вядомага паэта і перакладчыка Льва Озерава і сталі не проста аднакурсніцамі, і сяброўкамі. Пра той час у адным са сваіх артыкулаў Ала пісала: «Чаго ён [Озераў] ні пераспрабаваў, імкнучыся «адукаваць» сваіх у большасці вясковых «семінарыстаў» з Беларусі. Паэзія самага шырокага дыяпазону — ад старажытнагрэчаскай да наіноўшых публікацый, айчынная, замежная, у лепшых перакладах і ў арыгінальным гучанні, — вучыся, прымервай, спрабуй. Няспынна ўзбагачалася наша ўспрыняцце мастацтва ў самым шырокім сэнсе слова. Мы наведвалі майстэрні маскоўскіх мастакоў, музеі, найбольш значныя выстаўкі»... Гэтак усё насамрэч і было, акрамя аднаго! Алу Кабаковіч ужо ў той час і не трэба было асабліва «адукоўваць». Да паступлення ў Літінстытут яна з адзнакай скончыла факультэт журналістыкі Белдзяржуніверсітэта, некалькі гадоў працавала ў сістэме Дзяржкамітэта БССР па тэлебачанні і радыёвяшчанні, а самае галоўнае, мела свой адметны погляд і на тагачасную літаратуру, і на мастацтва. У яе быў бездакорны густ на паэзію, я нават сказала б, нейкае асаблівае чуццё, з чым нараджаюцца, чаго не можа даць ніякі вопыт. Гэта вялікі талент — умець чуць паэтычнае слова, а не проста ўспрымаць яго як вершаваны тэкст.

У інстытуце мы вывучалі польскую мову. І вось наша невялікая група дзякуючы клопату выкладчыцы, польскай пісьменніцы Мар'і Даліньскай, якая жыла ў Маскве, была запрошана на «палёнікум» — Міжнародныя курсы паланістаў пры Варшаўскім універсітэце. І там, у Варшаве, пані Мар'я наладзіла нам сустрэчу з маладымі польскімі пісьменнікамі. Многія з іх ужо мелі свае кніжкі, і мы ад таго-сяго атрымалі іх у падарунак. Ала толькі перагарнула адну з такіх кніжачак, па-мойму, ці не зборнік вершаў Вацлава Ткачука, і тут жа так бліскуча выказалася пра яе, што ўразіліся самі палякі.

Пра гэты яе асаблівы слых «на паэзію», як, дарэчы, і на мастацкі пераклад, гаварыў і Леў Озераў падчас апошняй нашай сустрэчы ў Ленінградзе ў 1989 годзе, калі адзначалася стагоддзе Ганны Ахматавай... Помню, як на другі ж дзень урачыстых мерапрыемстваў ён прынёс мне дзве свае кніжкі, томікі паэзіі, і сказаў: «Вось гэтая — вам, ну а гэту я падпісаў Але Кабаковіч, перадайце ёй...» І ў мяне адразу на вачах слёзы: «Леў Адольфавіч, вы, напэўна, яшчэ не ведаеце, але ўжо нельга перадаць... Ала пайшла з жыцця». І той дзень, як толькі даводзілася недзе сутыкацца, прайшоў ва ўспамінах пра Алу Кабаковіч. Озераў вельмі высока цаніў яе і як паэта, і як перакладчыка, якому, відаць, трэба мець асаблівы дар. Гэты вельмі адметны дар быў у Алы. Так супала, што тады толькі-толькі выйшла ў Маскве ў цудоўным перакладзе Ігара Шклярэўскага кніга вершаў Рыгора Барадуліна «Аист на крыше», пра якую яшчэ не аціхлі гаворкі ў літаратурных колах, як у часопісе «Дружба народов» пачалі друкавацца вершы Уладзіміра Караткевіча і Анатоля Вярцінскага, якія пераклала Ала Кабаковіч. І літаральна ўся літаратурная Масква загаварыла пра беларускую паэзію, пра яе магутны ўзлёт... Гэта былі вельмі яркія публікацыі! Тады ж Ала пачала і падпрацоўваць у «Дружбе народов», ёй ахвотна давалі рукапісы на рэцэнзіі, яе таленту і літаратурнаму густу давяралі, з яе меркаваннямі лічыліся.

> *«У яе быў бездакорны густ на паэзію, я нават сказала б, нейкае асаблівае чуццё, з чым нараджаюцца, чаго не можа даць ніякі вопыт. Гэта вялікі талент — умець чуць паэтычнае слова, а не проста ўспрымаць яго як вершаваны тэкст.*



Магчыма, падчас напісання тых рэцэнзій яна і зрабіла выбар. Аддала перавагу ў сваім творчым лёсе не паэзіі, не мастацкаму перакладу, дзе быў відавочны плён і ў тым, і ў другім жанры, а менавіта літаратурнай крытыцы. Пасля заканчэння інстытута, прыехаўшы ў Мінск, яна магла вельмі хутка ўладкавацца на працу ў рэдакцыю таго ці іншага выдання, але гэта яе не вабіла. Яна бачыла сябе навуковым супрацоўнікам Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук БССР. І з маленькай Аняю (сёння літаратуразнаўца Ганна Кісліцына) на руках некалькі месяцаў настойліва чакала, пакуль з'явіцца вакантнае службовае месца. У канцы 1971 года гэтае месца з'явілася. Яна вельмі актыўна выступала ў друку з артыкуламі, у якіх раскрываўся ўдумлівы, а нярэдка і дзёрзкі крытык, які не цярпіць шаблонаў, а ў 1976 годзе абараніла кандыдацкую дысертацыю. Вершы пісала для сябе, што называецца, у стол, выходзячы да чытача з грунтоўным даследаваннем творчасці Максіма Танка, Рыгора Барадуліна, Міхася Стральцова, Янкі Сіпакова, Петруся Макаля, Алеся Разанава і інш. У 1978 годзе яна выдала кнігу «Паэзія Максіма Багдановіча», а праз некалькі гадоў выйшла яшчэ адна — «Беларускі свабодны верш». Ужо калі Алы Кабаковіч не стала (яна пайшла з жыцця 11 лютага 1985 года), з'явілася яшчэ адно выданне — яе навуковая праца «Фальклорныя і анталагічныя традыцыі ў беларускай паэзіі». І як тут не ўспомніць радкі з яе верша «Поле»:

*Гайдае вецер палыны,*
*Гайдае жыта.*
*Не ўсё зроблена яшчэ, —*
*Не ўсё пражыта.*
*А як паспееш за жыццё*
*Напрацавацца,*
*То не паспееш на жыццё*
*Налюбавацца...*

Яна заўжды была ў працы, далёка не жаночай! Крытыка патрабуе моцнай рукі і спецыфічнага глыбокага мыслення, тут трэба быць мысляром, філосафам... Усё гэта і было ў Алы Кабаковіч, было ад Бога. І напрацавацца за сваё кароткае жыццё яна паспела, не паспеўшы ім налюбавацца... Ну, вядома ж, не налюбавалася дочкамі — Аняю, Кацяй, Зосяю, таксама і таленавітым, мудрым, разумным мужам. Адно пакінула на моцным, вялікім дрэве нашай літаратуры свой адметны залаты лісток — томік выбранага «Пасеянае ўзыдзе», у які ўвайшлі яе вершы, пераклады, шматлікія артыкулы і рэцэнзіі. Жыве яна і ў маёй паэзіі. У кнізе «Каханне» ёсць нізка вершаў, дзе ў радках — і мой паклон, і мая незабыўная памяць пра яе:

*Ты сном прыйшла,*
*праўваўшы небыццё.*
*Што там?.. Што там?.. —*
*пакутуе пытанне,*
*ты на яго адказваеш маўчаннем,*
*вяртаючы свой вобраз у жыццё...*

*Багаты на цяпло зямны абсяг.*
*Паўторыцца ў жывым з нас*
*кожны генам.*
*Ты адышла...*
*Прыйдзі ж пад сонца ценем,*
*жыві ўспамінам там,*
*дзе твой працяг.*

# Формула поспеху

**Тэатр пачынаецца з вешалкі. Спектакль — з п'есы, літаратурнага твора. Менавіта драматургія як род літаратуры з'яўляецца першым этапам кожнай сцэнічнай пастаноўкі. Эстэтычны аналіз спектакля з гэтай прычыны ў ідэале павінен пачынацца з разгляду якраз п'есы як мастацкага тэксту.**

**Анатоль ТРАФІМЧЫК**

Нельга дапускаць спарадычнага, бессістэмнага адбору твораў для сцэны. Зразумела, маніторынг глядацкіх запатрабаванняў — гэта галоўны шлях да адбору. Але ён не павінен быць адзіным. Таму што глядацкія запатрабаванні далёка не заўсёды скіраваныя на высокую эстэтыку. Масы спакон вякоў прагнуць забаўляльных, не абавязкова вытанчаных, густоўных відовішчаў. Адпаведна шырокае кола гледачоў неабходна і дацягваць, падштурхоўваць да высокага мастацтва.

У такім святле не менш важным выступае адбор матэрыялаў для пастановак праз шырокае і глыбокае вывучэнне корпуса драматургічных тэкстаў. Вызначэнне лепшай часткі драматургіі ў суадносінах з вынікамі маніторынгу глядацкіх пажаданняў павінна легчы ў аснову адбору твораў для сцэны. Адсюль выводзіцца формула: лепшая п'еса + зацікаўленне гледачоў = спектакль.

Формула, аднак, патрабуе канкрэтызацыі і дэталізацыі. Перадусім па кірунках яе прымянення. Гэта варта рабіць, каб не было перакосу ў нейкі бок, каб захоўваўся баланс у кожным з азначаных далей кірункаў.

*Жанрава-праблемна-тэматычны.* На сцэне павінен быць прадстаўлены шырокі спектр драматургічных жанраў. За класічнымі формамі нельга забываць і пра эксперыментатарскія спробы. У сілу шматграннага, шматслойнага чалавечага жыцця неабходна ўздымаць тэмы і праблемы з розных узроўняў, не зацыкліваючыся на прыватных момантах ці, наадварот, на тэмах і праблемах глабальнага маштабу.

*Гістарычны.* Варта ўраўнаважыць суадносіны паміж класічнай і сучаснай драматургіяй. Гледачу трэба рэпрэзентаваць і творы, якія сталі камертонам сапраўднага мастацтва, арыенцірам для наступных пакаленняў, глебай для ўсёй драматургічна-тэатральнай культуры, і тыя, якія яшчэ мусяць сцвярджацца. Неабходна адкрываць новыя імёны.

*Геаграфічны.* Абмежаванасць п'есамі толькі беларускіх, ці толькі расійскіх, ці адно замежных аўтараў была б шкоднай. Наўрад ці гледачы самых розных узроставых ці сацыяльных катэгорый адмовіліся б ад знаёмства з драматургіяй не толькі айчыннай, але і блізкага ды далёкага замежжа. Лепшыя п'есы сусветнай культуры (асабліва навінкі) павінны прысутнічаць на беларускай сцэне.

*Узроставы.* Сёння некаторыя заўважаюць, што рэпертуар для падрастаючага пакалення прадстаўлены небагата. Таму ўзроставая дыферэнцыяцыя дапамагла б скарэкціраваць актуальныя хібы і ў далейшым лепш адпавядаць кан'юнктуры. Гледача можна падзяліць на тры групы: дарослыя, юнацтва, дзеці (да 14 гадоў), кожная з якіх таксама мае свае асаблівасці на розных этапах.

*Сацыяльны.* З аднаго боку можна вылучыць творы элітнага, інтэлектуальнага кірунку — для гледача падрыхтаванага, гледача-гуманітарыя (ці па (сама)адукацыі, ці па духу). З іншага — творы для гледача масавага (але не ў нізкім, бульварным сэнсе, а ў сэнсе даступнасці масам твораў высокага мастацтва без асаблівай падрыхтоўкі). Прычым варта ўлічваць і спецыфіку масавага гледача.

Гэтыя пазіцыі павінны быць узаемазвязаныя. Перакос па адным з падпунктаў — гэта абмежаванне і мастацтва, і гледачоў, а адпаведна — усёй культуры. У прыватнасці, геаграфічны перакос у бок айчыннай, ці, наадварот, расійскай, або замежнай драматургіі проста небяспечны ўвогуле для дзяржаўнай дактрыны. Таму нельга пускаць адбор п'ес на самацёк. Праўда, у любы час будуць узнікаць пэўныя моды (на тэмы ці формы). Ім варта аддаваць належную даніну. Але ж — не ініцыятыву ў развіцці драматургіі! Інакш атрымаецца своеасаблівы «броўнаўскі рух». Цэнтралізаваная карэкціроўка на ўзроўні рэкамендацыйным прынясе не толькі карысць, але і плён для ўсіх бакоў тэатральнага працэсу ў прыватнасці і культурнага ў цэлым.

# З надзеяй на вясну

Біяграфія Францішка Аляхновіча яркая, тыпова артыстычная — і гэтым вельмі незвычайная для беларускай літаратуры першай паловы XX стагоддзя. Сын віленскага музыканта, з дзяцінства зачараваны тэатрам, ён без грошай і ледзь не басанож прыйшоў у 1918 годзе з акупіраванай немцамі Вільні ў савецкі Мінск, дзе паставіў сваю п'есу «Бутрым Няміра». Спектакль меў выключны поспех — зрэшты, Ф. Аляхновіч быў адным з галоўных арганізатараў яшчэ Першай беларускай вечарынкі (Вільня, 12 лютага 1910 г.), з часу якой давялося і павандраваць па Галіччыне, і адседзець два гады ў Лукішках, і зладзіць некалькі пастановак у роднай Вільні. У Мінску Ф. Аляхновіч працаваў менш як год — спачатку разам з Фларыянам Ждановічам у Першым таварыстве беларускай драмы і камедыі, потым ва ўласнай трупе, потым у Беларускім савецкім тэатры, пасля вярнуўся ў Вільню, зноў выправіўся ў Мінск…

Марыя ПАЎЛОЎСКАЯ,
Алеся ЛАПІЦКАЯ

Змяняліся месцы працы і назвы тэатральных калектываў, дый мала што заставалася нязменным у тагачасным жыцці, але малады драматург з імпэтам пісаў новыя п'есы і ставіў спектаклі. Сёння імя Ф. Аляхновіча — у адным шэрагу з заснавальнікамі беларускага тэатра — Ігнатам Буйніцкім, Уладзіславам Галубком, Фларыянам Ждановічам. Бясспрэчна цікавай з'яўляецца і літаратурная спадчына вядомага драматурга.

П'есы Ф. Аляхновіча мелі розны лёс: адны былі пастаўленыя неўзабаве пасля напісання і мелі поспех у гледачоў, іншыя атрымалі сцэнічнае ўвасабленне толькі ў 90-я гады. Драматычныя творы Ф. Аляхновіча — гэта і побытавыя камедыі з любоўнай інтрыгай, і п'есы, заснаваныя на літаратурных і фальклорных крыніцах, і драмы «дэкаданснага духу», якія выяўляюць захапленне аўтара новай еўрапейскай драмай. Творы гэтыя вельмі розныя паводле свайго мастацкага ўзроўню, і калі двухактовы абразок «На вёсцы» напісаны ў рэчышчы «Ідыліі» В. Дуніна-Марцінкевіча, але нашмат прасцей, то апошняя п'еса Ф. Аляхновіча «Круці не круці — трэба памярці» (1943), бадай, адзін з самых моцных драматычных тэкстаў свайго часу.

Твор заснаваны на вядомым сюжэце пра выпадковае зняволенне Смерці, аднак да выдатнай распрацоўкі фальклорнага матыву дадаюцца алюзіі на рэаліі савецкага грамадска-палітычнага жыцця, а ў дадатак актуалізуецца праблема самаахвярнага служэння народу. Народ ратуе Смерць, якую трымаў у бочцы Алхімік, самога ж Алхіміка людзі цягнуць на вогнішча (між персанажаў, вядома, Поп, Ксёндз, Сталяр і Далакоп). «Маёй перш-наперш было мэтай, каб эліксір знайсці жыцця... гадоў шмат гэтак мучыўся... Навукі ўсе як след пазнаў... Сваіх я сіл не шкадаваў, каб ашчаслівіць род людскі... Пашанцавала мне ў жыцці, бо Смерць лёс добры ў рукі даў, дык крэпка я яе схаваў, каб даць вам вечнае жыццё, каб несмяротныя зрабіць...» — цешыцца Алхімік і чуе ў адказ:

«Без Смерці цесна людзям жыць!»

Зрэшты, і ў творах 1918 — 1920-х гадоў пісьменнік дапускае скептычнае стаўленне да ідэі служэння народу: «Дзіця ты! Выгадаванае ў гарадскіх сценах дзіця! Ты не ведаеш народу, ніколі ты не быў на вёсцы. Ідзі на вёску, глянь! Паспрабуй там казаць аб Беларусі, аб бацькаўшчыне — усе падумаюць, што ты з глузду з'ехаў», — абураецца на сябра-ідэаліста Костусь з «Нясконачанай драмы». Гэты твор таксама адзін з найлепшых у драматургічнай спадчыне Ф. Аляхновіча — п'еса шмат у чым аўтабіяграфічная, цікавая і побытавымі дэталямі, і рэдкай для беларускай літаратуры увагай да сямейных праблем, канфлікту між творчасцю і бацькоўскімі абавязкамі.

«Рэч дзеецца ў Вільні ў часы нямецкай акупацыі» — і, натуральна, нараджэнне дзіцяці ў маладой пары робіцца вялікім клопатам, тым больш што бацька дбае найперш пра пісанне п'ес, а не пра «добрую службу». Але што тут напішаш, калі трэба ашчаджаць свечкі, грэць малако ці калыхаць малое, спрачацца з жонкай ды абараняць ад сябра-прагматыка высокія патрыятычныя памкненні... Неўзабаве немаўля памірае (у самога пісьменніка ў Вільні памерла маленькая дачка), галоўны герой, якога аўтар зусім не імкнецца ідэалізаваць, накіроўваецца ў Мінск, каб пачаць



*«Партрэт драматурга Францішка Аляхновіча».*
*Алег Карповіч. 1994*

новае жыццё, але драма так і застаецца нясконачанай. Гэта і драма, над якой працуе галоўны герой Васіль, і драма ягонай жонкі, і драма нацыянальнага адраджэння — вось толькі самой драме Ф. Аляхновіча, пэўна, лепш было стацца аповесцю, хай сабе ў пачатку XX ст. жанравыя эксперыменты былі не менш прывабнымі, чым цяпер.

> *Драматычныя творы Ф. Аляхновіча — гэта і побытавыя камедыі з любоўнай інтрыгай, і п'есы, заснаваныя на літаратурных і фальклорных крыніцах, і драмы «дэкаданснага духу», якія выяўляюць захапленне аўтара новай еўрапейскай драмай.*

П'есы Ф. Аляхновіча шмат у чым саступаюць, прыкладам, драматургічнай спадчыне Янкі Купалы — зрэшты, хто ведае, як ставіўся да іх сам аўтар. Прынамсі, Васіль з «Нясконачанай драмы» ацэньвае свае творы даволі стрымана: «Але, Юрачка! Як вырасцеш, будзеш мо смяяцца з бацькоўскіх твораў, яны пакажуцца табе наіўнымі ды слабымі, але, сынок, выбачай, мы людзі маленькія, мы толькі першыя ластаўкі нашага расцвету, мы як той гной, на якім закрасуецца з часам багатае жыта...».

Надзея апынуцца ў краі «расцвету» чарговым разам прывяла Ф. Аляхновіча ў сталіцу маладой БССР — у 1926 годзе драматург пакінуў польскую Вільню і неўзабаве пасля атрымання савецкага грамадзянства трапіў на Салаўкі. Уражанні ад доўгіх сямі гадоў знаходжання ў «бальшавіцкіх вастрогах» сталі асновай знакамітай дакументальнай аповесці «У капцюрох ГПУ».

Аповесць па форме нагадвае дзённік: мае загалоўкі, непарушную хроніку падзей. Гэта твор фактычны і падае канкрэтныя звесткі, але мае мастацкае афармленне праз суб'ектыўную ацэнку падзей і постацей. Апісанне тых ці іншых герояў з'яўляецца традыцыйным: служка «цёмнага боку» пры любой знешнасці мае агідныя рысы ў паводзінах, характары, рухах. Аднак аўтар не палівае брудам сваіх крыўдзіцеляў, а робіць нешта кшталту псіхалагічных штрыхоў пры абмалёўцы партрэта. Адметнай з'яўляецца мова твора: спакойнае апісанне часам пранізвае саркастычная, змрочна-сухая нотка, да таго ж у аповесці знаходзіцца месца гумару... У творы адчуваецца эмацыянальна-багатая афарбоўка складанага астрожнага жыцця — і, як заўсёды ва ўспамінах вязняў, шмат што тут моцна ўражвае.

Балюча, напрыклад, чытаць радкі, дзе пісьменніка ўжо не здзіўляюць расстрэлы, ён распавядае пра іх спакойна: «Расстрэлы адбываліся штораз часцей. Рэдка мінаў панядзелак, каб аўтамабіль не павёз каго на Камароўку. Ніхто з нас не ведаў, што яго чакае. Адзін меў больш шанцаў быць расстраляным, другі менш. Вось і ўся розніца». Пісьменнік, пэўна, адчуваў, што для чытача шмат што ва ўспрыманні Я-героя падасца непрымальным ці абуральным. Таму адны эпізоды напісаныя ад першай асобы, іншыя ж здарэнні аўтар назірае нібы зверху, што дазваляе пазбегнуць выяўлення непасрэднага ўласнага ўспрымання.

Ф. Аляхновіч паслядоўна апісаў сваё знаходжанне ў Мінскім ГПУ, потым — у Салавецкім лагеры асаблівага прызначэння, спыніўся на самых значных падзеях і з'явах: асобныя часткі аповесці прысвечаныя прыездам камісій з Масквы, культурнаму жыццю ў лагеры, знакамітым «адвездзінам Горкага», сведкам якіх давялося быць і беларускаму пісьменніку.

Пастаянная напружанасць думкі, наведанне свайго сапраўднага становішча, чаканне горшага — гэта складанае выпрабаванне. Чалавек настолькі звыкаецца і зміраецца са сваім жыццём, што нечаканая вестка пра волю робіцца своеасаблівым бунтам супраць самога сябе — пачынаецца роспач, спадзяванне атрымаць свабоду здаецца дзікім і фантастычным. Але Францішку Аляхновічу пашанцавала: у 1933 годзе яго абмянялі на Браніслава Тарашкевіча. Калі адбывалася гэтая «цырымонія», аўтар думаў пра Тарашкевіча: «Ён з астрога пойдзе туды, дзе ўвесь вялізарны край — гэта адзін вялікі астрог, дзе думка чалавечая сцісненая ў абцугох савецкага абсурду, дзе не толькі дзеяць і гаварыць, але і думаць і дыхаць трэба паводле аднаго, для ўсіх абавязковага шаблону».

Тэма аповесці апынулася надзвычай актуальнай: да Другой сусветнай вайны кніга «У капцюрох ГПУ», паводле А. Сабалеўскага, «пабачыла свет на сямі мовах свету ў Еўропе і Амерыцы». Ці ўсведамляў Ф. Аляхновіч, наколькі небяспечна распавядаць праўду? Імкнуўся перасцерагчы, аспрэчыць плёткі ці падзяліцца нянавісцю? 3 сакавіка 1944 года пісьменнік быў забіты ў сваёй кватэры.

Любіў Ф. Аляхновіч вясну — «з надзеяй на вясну ў сэрцы» ехаў ва ўсё яшчэ савецкі Мінск, і вось зноў «у паветры запахла веснавым пахам, які ласкоча душу, сэрца прымушае біцца мацней, напружвае нервы, як струны скрыпкі, наладжанай на высокі тон».

# «Лёсу майго шугалея..»

«Млён» — так называецца новая кніга гомельскай паэтэсы Ніны Шклярвай. Зборнік выйшаў у мінскім выдавецтве «Кнігазбор», утрымлівае вершы, паэмы, балады, выбраныя з пяці папярэдніх беларускамоўных кніг аўтаркі.

Ніна СЕРЫКАВА

Чаму менавіта «Млён»? (Гэтым словам называюць ручку, якой круцяць жорны.) Аўтарка сама дае адказ на гэтае пытанне ў аднайменным вершы, які адкрывае кнігу: «За млён вазьмуся, завуркочуць жорны. / І мліва заструменіца, як шоўк... / Вось так і словам мае думкі поўны, / як перамелецца, то будзе толк».

Для паэтэсы творчасць — гэта вельмі адказная, высакародная і разам з тым нялёгкая справа, таму і параўноўвае яе з працэсам памолу зерня і атрымання мукі.

Ніводнага дня Ніна Нічыпараўна не можа ўявіць без паэзіі, творчасці. Сваё жыццё яна параўноўвае з шугалеем, лодкай.

*Лёсу майго шугалея!*
*З літар і словаў зроблена,*
*Рыфмай маёй аздоблена,*
*З'ява жыцця і падзей.*

Здзіўляе і надоўга запамінаецца вобразнасць, шчырасць і беларускасць вершаў Ніны Нічыпараўны. Яе паэзія не можа не закрануць душу нават самага патрабавальнага чытача. Уражвае мова, якая каранямі з дзяцінства, з роднага дома, дзе нарадзілася і вырасла паэтэса.

Замілаванне і захапленне, лёгкую тугу па тым, што ўжо ніколі не вернецца, выклікаюць вершы, у якіх Ніна Шклярава дзеліцца сваім незабыўным пачуццём шчасця ў далёкім дзяцінстве.

*Мамачка! З якім давер'ем*
*Дома падрастала.*
*Птушанятачкам без пер'яў*
*Горачка не знала.*
*Зняла кожнаю пушынкай,*
*Цiўкала шчасліва.*
*Жук пузаты і травінка*
*Цешылі, як дзіва.*

Вершы Ніны Нічыпараўны зразумелыя кожнаму. Са старонак кнігі да нас нібыта звяртаецца сяброўка, з якой добра і пасумаваць, і пасмяяцца, і падзяліцца сваімі самымі патаемнымі думкамі. Прыкладам таму служаць яе вершы пра каханне. У іх паэтэса выказвае свае мары, надзеі і сумненні.

*Ты патрэбен мне*
*цэлую вечнасць,*
*Калі нават не буду твая,*
*Калі здасца ўсё недарэчным*
*І не трэба табе буду я...*
*Ты ж патрэбен мне*
*будзеш вечна.*

У паэзіі Ніны Шклярвай пра каханне імпануюць абаяльнасць прыгажуні, гарэзлівасць і разам з тым роспач адзінокай жанчыны, лёгкая іронія да самой сябе і да жыцця.

Для творчасці Ніны Нічыпараўны характэрна лірычнасць і спеўнасць. Сама яна ў адным з вершаў гаворыць: «Мой верш — мелодыя найперш...» Таму зусім не дзіўна, што на яе словы многія гомельскія кампазітары (сярод іх Валянціна Таянкова, Уладзімір Надтачэй) напісалі мелодыі і прыгожыя песні...

Павел САКОВІЧ

# Эпіграмы як рэкламы

## Юлія Зарэцкая

*Такую носяць*
*на руках, вядома.*
*Муж так і робіць.*
*Праўда, толькі дома.*
*Ну, а на працы…*
*Аж сказаць няёмка:*
*«Сядзець» на «Вожыку» —*
*заўсёды колка.*
*Яна, бывае,*
*скардзіцца сяброўкам:*
*«Я кожны дзень*
*сяджу як на іголках!»*
*Ці не адсюль*
*пайшоў знаёмы выраз?*
*Падзякуем за гэта*
*Юлі шчыра!*



## Святлана Дзянісава

*Маладая ў «Маладосці»,*
*Сярод юнай прыгажосці.*
*Пажадаць яшчэ чагосьці?*
*Затрымацца ў маладосці!*




## «Крытычная» эпіграма

*Казапалянская, яшчэ Капуста…*
*На літдзялянцы крытыкес не густа.*
*Жывуць не тужаць,*
*з талентамі дружаць,*
*Вось толькі на халтуру злыя дужа…*
*А ў небе «каравул» нясе Драздова:*
*На бездараў спікіраваць гатова.*
*Паболей «асаў» бы такіх, ад Бога,*
*Бо нас, пісакаў, стала надта многа…*
*Параіць можа, —*
*хоць бы той Капусце —*
*Шукаць калег, як дзетак…*
*у капусце?*




## Таццяна Сівец

*Настаў час шлюбу для Сівец Таццяны:*
*У самы раз — не позна і не рана.*
*Ёй нешта радыё калісь шаптала.*
*«Дык ты ж "яно"», — яна яму сказала.*
*І «Маладосць»: «Вазьмі мяне!» — прасіла.*
*Таццяна ёй, спакусніцы, ўступіла…*
*Але той «шлюб» кароткі быў даволі:*
*Навошта ёй такі ён, аднаполы?*
*Зазваў і «ЛіМ» у офіс свой багаты,*
*Ды толькі, можа, трошкі пазнавата?*
*Яна ж пабралася сапраўдным шлюбам:*
*Нармальным — з добрым*
*хлопцам любым!*




## Алена Брава

*Зірнеш налева ці направа —*
*Скрозь на паліцах кніжных Брава.*
*Імя яе навідавоку,*
*Дый на слыху — гучыць шырока.*
*Хто з вас наведвае тэатры,*
*Той — стаўлю ганарар на карту —*
*Пачуе рэха ейнай славы,*
*Як закрычаць у зале «брава»!*



Малюнак Аляксандра Шмідта

Міхась МІРАНОВІЧ

# Міранізмы

## Мужык у хаце

Сяброўка
Раіла Агаце:
— Павінен быць
Мужык у хаце!..
— Так, мужыка б
Някепска мець!..
Вось толькі мужа
Дзе падзець?!

## Не мяне...

— Пабачыш, —
Злева чуў і справа, —
Цябе, няйнакш,
Чакае слава!..
— Пабачыў —
Стала сумна мне:
Яна чакала
Не мяне!..

## Прызнанне

Вы майце, дзяўчаты,
На ўвазе,
Як жыць мне нялёгка
Даводзіцца:
Даўно я не быў
У экстазе —
Забыў ужо,
Дзе ён знаходзіцца...

## Не чужая

— Любая,
Не лайся без прычын,
Што хаджу я
Да чужых жанчын.
У суседкі быў я,
Дарагая.
А суседка — наша,
Не чужая!

## Недалюбліванне

Мужыкам прызнаўся неяк
Кум Кандрат,
Што хоць ведаў за жыццё
Жанчын нямала,
Ды здаўна ён
Недалюбліваў дзяўчат —
Далюбіць іх
Яму жонка не давала.

Людміла ЮШЫНА

# Прыпеўкі

* * *

За любоў і маладосць
Аддала б усё, што ёсць:
Грошы, мэблю, дываны
І апошнія штаны!

* * *

Скокі, скокі ды падскокі.
Дзе ж той хлопец яснавокі,
Што, як козлічак, скакаў,
Ажаніцца абяцаў?

* * *

Мой мілёначак мне люб,
Ды надта мудрагелісты:
Ростам доўгі, нібы слуп,
Яшчэ і фанабэрысты.

* * *

Даўганосага Данілу
Я ў саперніцы адбіла.
Плачу, слёз не тоячы:
Збег назад надоечы!

* * *

Пада мной рыпяць масніцы
І зямля ажно гудзе.
Весялейшай маладзіцы
Вы не знойдзеце нідзе!

* * *

Што мне спёка, што мне восень,
Маразы ды зімачка,
Калі ў мяне дзевак восем
І ў запасе Зіначка!

* * *

Гэта скуль такі узяўся
Кавалер, як Геркулес?
Як завуць, не запытаўся,
А за пазуху палез!

***

Ўсе па парах ды па парах,
А мне парачкі няма.
Пакуль я лунала ў марах,
Да суседкі ўцёк Кузьма.

***

Мой мілёначак брахаў,
Што адну мяне кахаў.
Ажаніўся ён з другой,
Што два цэнтнеры вагой!




Малюнак Пятра Козіча

Мікола МАЛЯЎКА

# Мабільны тэлефон

Вярнуўся з адпачынку,
Засумаваўшы, муж —
Даверлівы і шчыры
Мікола Капялюш.

Пытае жонка міла,
Чаму знянацку ён:
Яна ж яму купіла
Мабільны тэлефон.

Ну, а ў самой Тамаркі
Гарачая краса —
Палаюць шчокі ярка,
Расплецена каса.

Глядзіць, і стол накрыты:
Каньяк, ікра, лімон.
Дастаў тады забыты
Мабільны тэлефон.

І звоніць ён, вясёлы,
Суседу — будзе рад,
Бо той яму, Міколу,
Спрыяе жыць, як брат.

Ускінуўся трывожна,
Як быццам гэта сон,
Калі пачуў з-пад ложка
Суседаў тэлефон.

Заварушыўся, бачыць,
Пад ложкам і сусед.
І выпаўз, як сабака,
Адтуль на Божы свет.

Дык вось чаму ў Тамаркі
Гарачая краса —
Палаюць шчокі ярка,
Расплецена каса!..

Стаіць зямліста-шэры
Мікола Капялюш
І сам яшчэ не верыць,
Што ён — рагаты муж.

Ад гора выпіў потым,
Суседа выгнаў вон —
І свой раструшчыў ботам
Мабільны тэлефон.

Рывека МАТАВЕЦКАЯ

# Успаміны пра маю маці

Мае ўспаміны — адзіная магчымасць выказаць любоў да маёй маці...

Яна хварэла сем месяцаў: мезалітома лёгкіх. А я з-за свайго юнацкага эгаізму так і не знайшла часу пагаварыць з ёю пра яе жыццё. Мае ўспаміны эпізадычныя. Прычынай таму сама маці: яна ніколі не любіла гаварыць пра тое, што перажыла.

Усё, што я помню, — прагляды савецкіх кінастужак, калі з вуснаў мамы раптам зыходзіў нейкі каментарый, заўвагі да гутаркі яе сяброўак ды лісты, што пісалі мне людзі, даведаўшыся пра яе смерць.

❖ Яна нарадзілася ў 1913 годзе ў гарадку Авідзіопаль. Бацька займаўся рамонтам дахаў. Прафесія была вельмі даходная — мая бабуля магла бязбедна карміць усіх сваіх трынаццаць дзяцей. Пасля вайны іх засталося чацвёра...

❖ Мне чатыры гады. Зіма. Моцныя маразы. Маме трэба ляцець туды, дзе ў пасляваеннай краіне адкрываецца завод харчовай прамысловасці. Самалёты санітарнай авіяцыі маленькія, ацяпленне ў кабіне няма. Мама апранае мужчынскія кальсоны і некалькі пар шкарпэтак. Я пытаюся: «А чаму ты апранаеш кальсоны?» У адказ чую: «Таму, што я ў цябе і мама, і тата» — і ні слова пра цяжкасці, холад, абавязкі.

Калі прыляцела, позна ноччу пасадзіла мяне на санкі і доўга катала па вуліцы, радасна смяялася. Пад ліхтаровым святлом было відаць буйныя шматкі снегу. Гэтае шчаслівае імгненне заўсёды са мною. У тыя часы яна вярталася дадому позна, калі па радыё заканчвалася перадача «Тэатр ля мікрафона». (Перадачы пачыналіся ў дзевяць вечара і маглі цягнуцца каля дзвюх гадзін.) Сталін працаваў па начах. І дзяржаўныя чыноўнікі павінны былі знаходзіцца на працоўных месцах, каб імгненна адказаць на любыя пытанні. Я не заўсёды магла яе дачакацца, засынала. Яна будзіла мяне, карміла: «Ну вось, цяпер не будзеш у сне плакаць і крычаць, што цыганы адбіраюць у цябе хлеб». Не помню, ці адбіраў хто ў мяне хлеб, але гэтыя маміны словы добра помню.

❖ Першыя пасляваенныя гады. Прамысловасць Беларусі аднаўляецца пасля разрухі. Ад мамінага подпісу залежыць адкрыццё завода. Несвоечасовае адкрыццё пагражае кіраўніку здачай партбілета і судом. Я бегаю па вуліцы, пад'язджае машына. У мяне пытаюцца, ці не Матавецкая маё прозвішча. Я ківаю. Мужчына кажа, што маці загадала паставіць мяшок бульбы да нас у пакой. Мы здымалі пакой у прыватным сектары ля аэрапорта. Позна вечарам мама натыкаецца на мяшок пры святле керасінкі. Будзіць мяне і выходзіць, не распранаючыся. Вяртаецца з дзяжурнымі міліцыянерамі аэрапорта, якія распытваюць мяне пра мяшок. Аказваецца, гэта хабар. Складаюць акт. А я доўга плачу і даю маме слова, што ніколі ні ў кога нічога не буду браць.

❖ На вуліцы знайшла знясіленае кацяня, якое мяўкала. Прыношу дадому. Як яму дапамагчы? Малака няма. Мне пяць гадоў, але я ўжо свабодна чытаю. У маміным зборы тамоў ваеннай хірургіі часоў Вялікай Айчыннай вайны знаходжу, што пры знясіленні трэба ўвесці глюкозу. Адколваю кавалачак цукру. Кіпячу шпрыц у тэрмастаце з мамінай медыцынскай сумкі. І раблю ўкол кацяняці. Да прыходу маці, адпакутаваўшы ў мяне на вачах, кацяня памірае. Над маленькай магілкай у садзе гаспадыні маці строга распытвае мяне. Зразумеўшы прычыну яго смерці, кажа: «Важна не толькі правільна паставіць дыягназ, але і выбраць вернае рашэнне. Калі б ты не спяшалася яго лячыць, нам удвух удалося б яго выгадаваць». Фразу «Лепш быць сярэднім інжынерам, чым сярэднім урачом. Але ў кожнай прафесіі патрэбны граматныя спецыялісты» я запомніла. Яна гучала ў мяне ў вушах, калі я прымала рашэнне, куды ісці вучыцца.

❖ Помню, як за мной прыйшлі калегі мамы і ў кожнай з іх я жыла па тыдні, пакуль мяне не ўладкавалі ў дзіцячую санаторную круглασутачную школу ў Драздах. У мамы быў інфаркт. Калі вярнулася дадому, пасадзіла мяне насупраць і загадала запомніць тое, што раскажа.

У Маскве адкрылі «справу ўрачоў». Начальнік упраўлення кадраў Міністэрства аховы здароўя Вінаградаў вырашыў, што ў Беларусі таксама трэба выкрыць ворагаў народа. На ролю падыходзіла галоўны санітарны ўрач рэспублікі, што вяла ўсю харчовую прамысловасць Беларусі, Голда Шлёмаўна Матавецкая. Хутка была склікана калегія Міністэрства. Вінаградаў прапанаваў маці пакласці на стол партбілет (членам партыі яна была з 1932 года). Разумеючы, што можа адбыцца за гэтым, першы намеснік міністра Міхаіл Іванавіч Бяляцкі дастаў свой партбілет (камуністы абавязаны заўсёды насіць іх з сабой) і паклаў на стол побач з маміным. Ён сказаў, што Голда Шлёмаўна працавала пад яго кіраўніцтвам і адказнасць за выкананую ёй работу ён раздзяляе з ёю. Галасаванне па выбары ацэнкі выкананай работы (дзевяць членаў калегіі і міністр з правам двух галасоў) было 50 на 50 пры адным устрымаўшымся — Міхаіл Іванавіч не меў у гэтым выпадку права голасу. Падумаўшы, міністр Інсараў аддаў два свае галасы за прызнанне работы здавальняючай. Гэта — вышэйшая адзнака мамінай работы ў тыя часы. Жыццё паказала, што «справа ўрачоў» — надуманая. Інсараў і Бяляцкі далі ацэнку мамінай работы па фактычна дасягнутым узроўні развіцця харчовай прамысловасці ў Беларусі ў пасляваенныя гады. Але мама на два месяцы ўпершыню ў жыцці злягла. Вайна яе не зламала. Удар быў нанесены ў мірны час. Мне яна пакінула запавет — пра людзей судзіць не па нацыянальнасці, не па колеры скуры, не па вопратцы і не па месцы на службовай лесвіцы, а толькі па іх учынках.

На сваёй пасадзе ў Міністэрстве аховы здароўя БССР яна прапрацавала з 1946 па 1964 год.

❖ У 1953 годзе мама выйшла замуж. Мы пераехалі да айчыма ў яго пакой у вялікай камуналцы на Нямізе. Да вайны ўся кватэра належала яму, падчас вайны была заселена сем'ямі паліцаяў, што дапамагалі немцам ахоўваць гета ў раёне вуліцы Астроўскай. Пасля вайны паліцаяў судзілі, але іх сем'і засталіся. Калі ў 1946-м айчым, маёр медслужбы, начальнік медыцынскага забеспячэння Волхаўскага фронту, вярнуўся ў Мінск з Германіі, з дапамогай камендатуры яму вярнулі 25-метровы пакой. Так і жылі ў адной кватэры абаронца Радзімы і сем'і здраднікаў. Ды і самі здраднікі пасля адбывання тэрмінаў у лагерах вярнуліся ў свае сем'і.

Маму за ветлівую маўклівасць у разборках на шасціметровай кухні (да вайны гэта была кладоўка) суседзі клікалі «Пані Міністарка». Але аднойчы позна вечарам пагрукалі ў дзверы і папрасілі дапамогі. У адной з суседак пачаліся дачасныя роды. У нас у пакоі быў тэлефон, выклікалі «хуткую дапамогу», але жанчыне было кепска. І тут я ўбачыла зусім іншую маці — доктара, гатовага прыйсці на дапамогу ў любых умовах. «Хуткая» нават не стала забіраць парадзіху ў бальніцу — настолькі кваліфікавана была аказана дапамога.

Дагэтуль на пытанне, кім працуе мама, я адказвала: «Папяровым інспектарам». Такое ў мяне было ўражанне пасля таго, як наведала яе ў Доме ўрада. А пасля гэтага выпадку з гонарам заяўляла: «Мая мама — урач».

❖ У мамы на левай руцэ шнар трошкі ніжэй пляча. Я спытала ў дзяцінстве: «Гэта прышчэпка ад воспы?» Мама толькі смутна і разам з тым шчасліва ўсміхнулася. Толькі пасля яе смерці, калі на адну з віншавальных паштовак я адказала, што мамы ўжо няма, адрасат напісаў мне, як яна рабіла яму хірургічную аперацыю ў палявых умовах, проста пад дубам. Яе параніла ў левую руку, але яна давяла аперацыю да канца, і толькі пасля таго яго адправілі ў шпіталь.



Фота з сайта www.photosight.ru

❖ Першы чорна-белы тэлевізар. На маленькім экране ідзе фільм пра вайну. Салдаты ўночы прабіраюцца да рэчкі па ваду. І гэтак кожную ноч. Людзі гінуць, але не здаюцца. Мама вельмі ўважліва глядзіць на экран. Голас за кадрам: «У Інкерманскім шпіталі параненыя паміралі без вады». Мама напружана кажа: «Вада патрэбна была дзецям. Раненых паілі віном са штольні. У віне мылі бялізну, на віне гатавалі ежу. Шмат людзей загінула ад ран брушной поласці, а астатніх мы выхадзілі. У першыя гады вайны яшчэ не рабілі аперацый на брушной поласці». Гляджу на яе і бачу — яна цяпер там, у штольнях. І гаворыць яна гэта для сябе, удакладняючы трагедыю абставін. І раптам разумею: яна была на вайне. І гэты фільм — і пра яе таксама.

Прыгадала гэты эпізод — і захацела праверыць маміны словы, якія ніколі не ставіла пад сумненне. Інтэрнэт на запыт у пошукавіку «Інкерманскія штольні» даў успаміны сведкаў пра горад у штольнях, шпіталь і дзіцячы сад. Віно тое — запасы шампанскага. А параненым у брушную поласць увогуле піць нельга, а шампанскае тым больш.

❖ Яшчэ адзін фільм пра вайну. Ваенкам паведамляе, што хутка пройдзе воінскі эшалон. Салдат перакідваюць на іншы фронт. Стаянка будзе пару хвілін. З надзеяй убачыць роднага чалавека на чыгуначнай станцыі збіраюцца жанчыны маленькага гарадка. Пасля доўгіх часоў чакання эшалон на вялікай хуткасці ляціць праз станцыю, жанчыны, выкрыкваючы прозвішчы, бягуць паралельна вагонам.

У тых, хто сабраўся да нас «на тэлевізар», слёзы коцяцца па шчоках. Мама засяроджаная. Раптам вымаўляе: «У нас так было з тваім бацькам. Толькі ўздоўж вагонаў бег ён». Пасля таго, як суседзі пайшлі, саджуся побач і патрабую расказаць.

Мама, медык з досведам ваеннай хірургіі, удзельніца фінскай кампаніі (начальнік шпітальнага эшалона «Выбарг—Масква»), на службу была прызвана 27 чэрвеня 1941 года. На шосты дзень вайны. Бацьку, вядомага на той час архітэктара, праз два тыдні ад пачатку вайны прызначылі начальнікам сапёрнай дывізіі. Адрасамі палявой пошты абмяняцца яны не паспелі. У канцы 1942-га на фронт прыйшлі свежыя сілы — сібірскія дывізіі. Фарміраванні тых, хто ваяваў з першых дзён вайны, сталі накіроўваць у тыл на адпачынак і папаўненне. Палявы эвакашпіталь, дзе мама была начальнікам хірургічнага аддзялення, адправілі ў горад Горкі. А прадстаўленых да ўзнагарод франтавікоў запрасілі ў Крэмль. Мама была проста з фронту і не паспела памяняць лычкі на пагоны. Першы ж патруль адправіў яе на гаўптвахту. Вызвалілі яе толькі тады, калі яна павінна была сесці ў цягнік на горад Горкі. Ваенны патруль прывёз яе дакладна да адпраўлення цягніка. А бацька, які ў той час быў у Маскве, прачытаў яе прозвішча ў спісе ўзнагароджаных. У ваенкамаце яму сказалі, куды ён павінен следаваць. Вось ён і бег уздоўж эшалона і выкрыкваў яе прозвішча. Толькі і паспелі яны абмяняцца нумарамі палявой пошты.

У маім архіве захоўваецца на маленькіх кавалачках шпалер шасцімесячная перапіска паміж начальнікам дывізіі пра перавод маёй мамы ў дывізію бацькі. Помню, пасля той размовы яна мне яе ўпершыню паказала. Мяне ўразіла ўказаная татам падстава для пераводу: «Матавецкая з'яўляецца маёй даваеннай жонкай». З гадамі я даведалася пра існаванне ваенна-палявых жонак, але тады мама на маё пытанне нічога не адказала.

Мама выйшла ў запас маёрам медыцынскай службы 14 кастрычніка 1944 года. А я нарадзілася 17 кастрычніка. Праз два тыдні пасля родаў мама была прынята вольнанаёмнай на сваю пасаду. Тата памёр у канцы лістапада 1944-га ад мінных раненняў у тым жа самым шпіталі.

Мама стала «ўдавой з дачкой». Так запісана ў яе ваенным білеце. Я захоўваю яго разам з яе партбілетам.

❖ Мне васямнаццаць гадоў. Улічваючы маю актыўнасць у справах камсамола, прапануюць уступіць у кампартыю. Гэта прэстыжна. Адкрываюцца вялікія магчымасці прасоўвання па службовай лесвіцы. Адна рэкамендацыя ўжо ёсць. Другую прапануюць узяць у мамы — як старога члена партыі. Гэта заменіць дзве рэкамендацыі маладых камуністаў. Лячу дадому, упэўненая, што яна будзе згодна. Яна ж мяне выхавала. Адказ — не. У членстве ў камуністычнай партыі нельга бачыць адчыненыя дзверы для кар'еры. Перш за ўсё трэба прыйсці да разумення яе ідэалогіі. Рашэнне прымаецца на ўсё жыццё. Гэта вялікая адказнасць. Я яшчэ маладая і павінна спачатку навучыцца ацэньваць жыццё для прыняцця правільнага рашэння. А гэта прыходзіць толькі з узростам, жыццёвым вопытам і аналітычным разуменнем жыцця. Паўлікі Марозавы партыі не патрэбны.

Такі вось урок.

❖ У кватэры гучыць музыка Шапэна ў выкананні Таццяны Старчанкі. Пераношуся ў думках у мінулае. Мама хварэе. У краіне цяжка з прадуктамі, урад арганізуе сталы заказаў для ветэранаў, дзе абслугоўваюць па пасведчаннях. «Мама, трэба атрымаць пасведчанне па тваім ваенным білеце». Яна ў адказ: «Дачушка, я падчас вайны гатова была жыццё аддаць за людзей, каб вашаму пакаленню жылося лепш за нас. Даруй, не змагла. Якое права я маю атрымліваць нешта перш за астатніх? Будзем жыць як усе і дзяліць цяжкасці разам з усімі».

Колькі мама рабіла для людзей, я даведалася толькі пасля яе смерці. Самая першая наведвальніца ўвечары таго ж дня — незнаёмая дама з дзвюма цяжкімі сумкамі прадуктаў і запісачкай у краму для набыцця спіртнога (тады ўсё было па талонах). Гэта яе ўдзячнасць за маміну дапамогу. І яшчэ шмат паштовак са словамі ўдзячнасці маёй маме...

**Пераклад з рускай Вольгі ПАЎЛЮЧЭНКІ**

# Алёна Беланожка: «Мару напісаць казку-мюзікл»



Беларусь будучага. Рэлігія стала ганебным перажыткам. Цэркваў засталося мала, ды і тое ў якасці «Музеяў хрысціянства», а былыя святарыператвараліся ў музейшчыкаў ды вартаўнікоў. Адзінае, у што вераць людзі, — юніверсалогія, святыні якой — датчыкі ды розныя цікавосткі кшталту сетак і пнеўматычных пісталетаў. З іх дапамогай юніверсолагі ловяць міфалагічных істот. І вось у цэнтры чытацкай увагі — русалка, вабная і помслівая: крыўдзіцелі яе гінуць адзін за адным. Але каханне да простага зямнога хлопца ўратуе душу тапельніцы.

**Анастасія ГРЫШЧУК**

«Навука не ўмее ўваскрашаць, уваскрашае толькі вера!» — даводзіць Алёна Беланожка ў апавяданні «Грэбень у скрыні». Менавіта гэтае апавяданне прынесла беларускай пісьменніцы першае месца ў конкурсе маладых літаратараў Саюзнай дзяржавы Беларусі і Расіі «Мост Дружбы». Сярод пераможцаў ад Беларусі — яшчэ чацвёра: Маргарыта Латышкевіч, Дар'я Вашкевіч, Вольга Чаркас і Мікола Андрэеў. Сёння мы гутарым са спадарыняй Алёнай.

**— Чаму ты вырашыла ўдзельнічаць у конкурсе? Калі шчыра, разлічвала на перамогу ад пачатку?**

— Мяне запрасілі да ўдзелу, і я пагадзілася, бо гэта заўжды цікавы досвед. Ну, і калі чалавек не разлічвае на перамогу, то навошта тады брацца?

**— Апавяданне пісалася адмыслова для конкурсу ці ты яго дастала з «творчых загашнікаў»?**

— Апавяданне «з-пад сукна», але яно нідзе не было надрукаванае. У мяне проста не было часу ствараць нешта спецыяльнае. А калі б конкурс праводзіўся, скажам, у гэтыя дні, я магла б прапанаваць не менш як пяць абсалютна новых празаічных твораў. Хачу зрабіць кнігу фантастыкі.

**— Як думаеш, чаму журы адзначыла «Грэбень у скрыні»?**

— Мне паведамілі па сакрэце, разам з весткай пра перамогу, чым сярод іншых вызначаўся мой твор. Міфалагічны падмурак, перш за ўсё.

**— Русалчын грэбень — гэта сімвал народнай культуры, магутнасці, першаасновы нацыі ці нешта іншае?**

— Не думаю, што трэба шукаць такія глыбінныя сэнсы ў грэбені маёй русалкі — тут ён выступае як медыятар паміж прыродным, хтанічным светам і светам людзей, соцыуму. Наша культура настолькі ёмістая, што не змесціцца ў адзін грэбень.

**— Ты больш вядомая як паэтэса. Але апошнім часам тваё імя звязанае з прозай: у «Маладосці» надрукаваны «Чамадан з кракадзілавай скуры», цяпер на слыху — «Грэбень у скрыні». Чаму так?**

— Мне чамусьці падаецца, што я роўна так жа вядомая ў якасці паэткі, як і ў якасці празаіка — даволі сціпла. А вось у Магілёве, дзе працую, мяне ведаюць найперш як сцэнарыстку: я раблю сцэнарныя распрацоўкі і паўнавартасныя літаратурныя сцэнарыі масавых свят і відовішчаў. Проста маю шчасце займацца тым, што мне цікава, і добра, калі гэта атрымліваецца няблага.

**— Дарэчы, лёс навукоўцаў у аповедзе пра грэбень не дужа зайздросны: яны, выбачай, мруць як мухі. Адкуль такая непрыязь?**

— Гэта не непрыязь, што ты! Проста я лічу, што ў кожнай справе як на вайне: трэба быць гатовым загінуць за свае ідэалы. Калі ты не гатовы — значыць, нечым не тым займаешся. А навука — гэта, у прынцыпе, даволі небяспечная сфера дзейнасці. Выпраменьванні, выбухі, бактэрыі… антыматэрыя…

**— У ахвяр русалчынай рэўнасці — забітых дзяўчат — часам няма прататыпаў?**

— Не, няма. Усё — прыдумка.

**— Русалка стала галоўнай гераіняй, бо патрэбна была лінія кахання, ці ёсць больш глыбінныя прычыны?**

— Мяне вельмі займае траецка-купальская абраднасць, і, шчыра кажучы, гэта не першы мой твор, у якім з'яўляюцца русалкі. Увогуле, славянская міфалогія — невычэрпная крыніца натхнення.

**— Апавяданне вянчае хэпі-энд з пярсцёнкамі. Ты сапраўды верыш ва ўсёпераможнасць кахання?**

— Па-першае, апавяданне вянчаецца не «пярсцёнкамі», а толькі «крыжыкамі», а далей — фантазія чытача. А вось у справе кахання трэба быць вельмі асцярожнымі… не так даўно яго афіцыйна ўнеслі ў спіс псіхічных захворванняў, паставіўшы ў адзін шараг з шызафрэніяй, наркаманіяй і алкагалізмам. Яно кадзіруецца як «F 63.9». Я за тое, каб жыццёва важныя пытанні вырашаліся на цвярозую галаву.

**— Ёсць у цябе такі твор, які б найбольш трапна і поўна выяўляў цябе самую?**

— Творчасць аўтара — гэта заўсёды мазаіка, па адным творы наўрад ці можна паставіць правільны «дыягназ». А калі адлюстроўваць мой цяперашні перыяд жыцця, то, хутчэй, я буду як Мілачка з апошняга майго апавядання «Гузік на шчасце»:

*«…мужчына прыклеіў афішу проста на дзверы і выйшаў, не развітаўшыся.*

*— «Кампанія «Абсалютнае шчасце» прапануе: бясплатны семінар па пазбаўленні ад дэпрэсіі! Кожнай наведвальніцы — гузік у падарунак!» — прачытала Мілачка абвестку на дзвярах; яна забегла да сяброўкі пахвадіца абноўкамі.*

*Мілачка абзавялася не толькі трыма парамі дарагіх басаножак. Яна была ўся абвешана пакункамі і скруткамі, як наўючаны вярблюд. Чаго ў іх толькі не было: сукенкі, хусткі, шампуні і крэмы, расчоскі і пацеркі і нават дыванковая дарожка…*

*— А гэта табе нашто? — спыталася Лера, калі зазірнула ў адзін з пакетаў і ўбачыла там дрэль.*

*— Разумееш, яна вісела там адна, апошняя, такая харошанькая і з аграмаднай зніжкай! Я падумала — хай будзе, у гаспадарцы ўсё спатрэбіцца! — патлумачыла Мілачка і дадала: — Ведаеш, калі б я ўжо не была абсалютна шчаслівая, я схадзіла б на гэты семінар аб гузіках!»*

**— Актуальнае для нас пытанне: як беларускаму пісьменніку прабіцца да масавага чытача? І ўвогуле, ці патрэбна гэта?**

— Я не ведаю рэцэпту. Сёння не модна чытаць. Модна глядзець і слухаць. Трэба пісаць займальныя сюжэты, каб кніга была як кінастужка. Варыянт «спярша кіно, пасля кніга» таксама не горшы.

**— У адным інтэрв'ю ты казала, што не перабіраешся з Магілёва ў Мінск, бо «добра там, дзе нас няма». А ці ёсць у такой аддаленасці ад «літаратурнага эпіцэнтра» перавагі?**

— Меней ходзіш па розных літаратурных імпрэзах — больш часу аддаеш творчасці. Перавага відавочная.

**— У тым жа інтэрв'ю ты выказала спадзеў, што «Беларусьфільм» усё ж задзейнічае твой сцэнарый, які ляжыць там даволі даўно…**

— Там не адзін сцэнарый. Першы — «Пад музыку Вівальдзі» — чакае свайго часу аж з 2008 года, калі я ўзяла прэмію «Шанс» у конкурсе… Другі сцэнарый пад рабочай назвай «Скарб Машэкі» ляжыць у запасніках студыі ўжо амаль два гады і праз месяц ператворыцца ў падлеткавую аповесць. Трэці — сцэнарый мультыплікацыйнай стужкі «Калядная казка». Пра яго больш як год нічога не чуваць і пра чацвёрты, таксама мультыплікацыйнай стужкі, «Русалчын таўкач», — цішыня. Значна змяніліся правілы кінавытворчасці, цяпер сцэнарыст па сутнасці мала каму цікавы, таму што патрабуецца прадстаўляць да ўдзелу ў конкурсах гатовыя кінапраекты, а гэта, у першую чаргу, бізнес-план. Бізнес-план — гэта лічбы. А я гуманітарый. На жаль.

**— Наколькі я ведаю, ты пішаш тэксты песень для нашых эстрадных зорак. Цікава, з чыіх вуснаў беларусы чуюць твае тэксты?**

— З апошняга — навагодні канцэрт на АНТ, дзе прагучалі дзве песні на мае тэксты. Першая — у выкананні Ганны Шаркуновай і гурта «Крылья» («Я люблю цябе, як песню»), другая — у выкананні Вікторыі Алешкі і Віталя Варанко («Танга»). Увогуле, я мару напісаць тэлевізійную казку-мюзікл для нашых зорак. Разгледжу прапановы!

**— Калі вярнуцца да конкурсу: ці даюць перамогі ў такога кшталту праектах рэальную падтрымку аўтару? Увогуле, што яны даюць, на твой погляд?**

— Па-першае, гэта добрая магчымасць апублікаваць твор. Пераможца любога конкурсу негалосна «задае моду» (лепшы прыклад, дарэчы, — «Еўрабачанне»). Па-другое, гэта добрая рэклама не толькі для аўтара, але, калі конкурс міжнародны, то і для краіны, якую ён прадстаўляе. А патрэцяе, гэта добры стымул у далейшым пісаць, як мінімум, не горш.

# Канцэрт адбыўся!

Юбілейны канцэрт, прысвечаны 55-годдзю заслужанага аматарскага калектыву Рэспублікі Беларусь ансамбля танца «Равеснік», прайшоў 28 лютага ў Палацы Рэспублікі. Падзялілася святочным настроем і распавяла пра найбольш яскравыя моманты мерапрыемства мастацкі кіраўнік Таццяна Семчанка.

**Дзіяна КАРОЛЬ**

— Наша база і наш «родны дом» — Рэспубліканскі Палац культуры прафсаюзаў, таму мы шмат каго здзівілі, адзначыўшы чарговы юбілей у Палацы Рэспублікі. Справа ў тым, што падчас святкавання 50-годдзя ансамбля з-за вялікай колькасці людзей, як удзельнікаў, так і гледачоў, давялося даваць тры канцэрты. Гэта было вельмі складана, таму і з'явілася ідэя правесці мерапрыемства ў Палацы Рэспублікі, дзе і зала большая, і сцэна. Так мы сталі сапраўднымі першаадкрывальнікамі: «Равеснік» — першы дзіцячы аматарскі калектыў, які даў на галоўнай сцэне краіны сольны канцэрт. А ўдзел у ім узялі каля 500 дзетак ад 5 да 16 год.

Канечне, усе артысты вельмі хваляваліся, а для самых маленькіх мерапрыемства наогул стала першай сустрэчай са сцэнай. Лічу, усё прайшло добра, і з упэўненасцю канстатую: канцэрт адбыўся! Ды і як інакш: мы шыкоўна аздобілі сцэну, запрасілі галоўнага рэжысёра «Белканцэрта» Н. Осіпаву, вядучых А. Спірыдовіч і Я. Крыжаноўская. Зала была поўная (гэта больш як 2,5 тысячы чалавек), і калі ў фінале гледачы пачалі апладзіраваць стоячы, шчасцю дзяцей не было межаў. Таму мы і кажам нашым нават самым маленькім артыстам, што, хаця часам бывае і сумна, трэба паўтараць адзін рух па 10, а то і па 100 разоў. Тады ўсіх чакае ўзнагарода за працу. А гэта — самае прыемнае!



Фота Дзмітрыя Рудзенкі

Што даа нумароў, мы імкнуліся паказаць тыя, якія гледачы любяць і пазнаюць: беларуская народна-сцэнічныя танцы, харэаграфічныя малюнкі. Пры гэтым стараліся не стаміць ні ўдзельнікаў, ні гледачоў, бо, у першую чаргу, канцэрт для дзяцей. І хаця ён доўжыўся дзве гадзіны без перапынку, па заканчэнні асноўным пытаннем стала: «І гэта ўсё?» Добры знак — гледачам спадабалася, і яны прыйдуць яшчэ.

З нагоды юбілею мы атрымалі шмат віншаванняў: ад Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, Міністэрства культуры, ад Мінгарвыканкама і інш., на канцэрце прысутнічалі прадстаўнікі дыпламатычных місій, акрэдытаваных у Рэспубліцы Беларусь, бо калектыў «Равеснік» ужо шмат год паспяхова прадстаўляе Беларусь на міжнародных фестывалях і форумах.

Мы заўсёды імкнёмся да ідэалу, але гэты канцэрт, зразумела, не вынік. Наконт адмоўных момантаў казаць нічога не буду: мы іх ведаем і працуем над імі. Дарэчы, заўсёды просім сказаць нам штонебудзь добрае — яно нас акрыляе і спрыяе выпраўленню памылак.

У калектыве ёсць прымаўка: «Нельга двойчы зрабіць уражанне», таму дзеці заўсёды адчуваюць адказнасць, хвалююцца і, галоўнае, разумеюць, што і навошта яны робяць. Мне здаецца, падчас юбілейнага канцэрта мы складалі адну каманду з педагогаў, дзяцей, бацькоў, адміністрацыі нашага Палаца і пры падтрымцы Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі, зладжана працавалі, таму ўсё і атрымалася. А наогул, жыццё ў нас віруе: «Равеснік» бярэ ўдзел у шматлікіх канцэртах як у нашым Палацы, так і на іншых пляцоўках горада. Юбілейны канцэрт адбыўся, а на наступны дзень мы ўжо распачалі падрыхтоўку да новага мерапрыемства. Зацішша ў нас не бывае.

# Нас не існуе. Па дакументах

Госць сёлетняй Мінскай міжнароднай кніжнай выстаўкі-кірмашу Надзея Міхайлава ўзначальвае сетку кнігарняў «Маскоўскі Дом Кнігі», а таксама з'яўляецца прэзідэнтам Асацыяцыі кнігагандляроў незалежных дзяржаў (АСКР).

**Анастасія ГРЫШЧУК**



Паводле Надзеі Іванаўны, сёння кнігагандаль Расіі знаходзіцца ў крытычным становішчы.

«І ведаеце, пасля гутарак з мінскімі калегамі мне падаецца, што ў Беларусі сітуацыя лепшая. Вашыя кнігарні яшчэ карыстаюцца падтрымкай.

Кніга — элемент культуры, а не проста тавар. Аднак нашыя ўлады пра гэта забыліся. І тое, што кнігарня — прадпрыемства сацыяльна значнае, у Расіі не заўважаюць. У савецкія ж часы ўсё было інакш. Працавала 17 буйных сетак: Ленкніга, Маскніга і шэраг нацыянальных — Белкніга, Укркніга і г. д. Для кнігарняў існавала нулявая арэндная стаўка, а камунальныя выдаткі аплачваліся на 50 працэнтаў. Гэта дазваляла ажыццяўляць праграмы, якія арыентавалі моладзь на чытанне… Што ж здарылася з Расіяй, калі зруйнавалася сістэма і абарваліся эканамічныя сувязі? **З больш як 200 кнігарняў у Маскве засталося 34.** Кінуліся мяняць форму ўласнасці, і ў выніку да кнігарняў пачалі ставіцца як да камерцыйных арганізацый. З усімі наступствамі.

Сетка «Маскоўскі Дом Кнігі» ўсё ж здолела застацца дзяржаўнай і разам з тым захавала права на льготную арэнду. Толькі дзякуючы гэтаму мы развіваемся цягам 15 гадоў. Аднак за ўсё астатняе — рамонты, акцыі, напаўненне — плацім са сваёй кішэні. Сёння асартыментная база «МДК» налічвае каля 250 тысяч найменняў, у тым ліку — букіністычная і антыкварная літаратура. Аб'ядноўваем 40 кнігарняў. Акрамя таго, выпускаем часопіс для пакупнікоў «Читаем вместе», дзе даём анонсы на кнігі — так бы мовіць, сто кніг месяца».

Але як даказаць уладам, што кніжны гандаль сапраўды з'яўляецца не менш значным, чым вытворчыя прадпрыемствы ці сельская гаспадарка? Такая задача ўяўляецца надзвычай складанай, калі ўлічыць, што кніга ніколі не прынясе такога прыбытку, як, скажам, збожжа (дзікае параўнанне, але што тут зробіш). Тым не менш «Маскоўскі Дом Кнігі» не адступае: створаная адмысловая праграма па прасоўванні кніг, якая прапагандуе чытанне, прыцягвае новых пакупнікоў — і разам з тым спрыяе культурнаму росту насельніцтва.

«Мерапрыемствы ў нас ідуць адно за адным. Як толькі пачынаецца новы год, мы запускаем вялікую колькасць дзіцячых праграм. Існуе нават спецыяльны аддзел, які працуе са школамі.

Напрыклад, на вясновых вакацыях праводзім фестываль дзіцячай кнігі. Насамрэч, у такі час **мы не столькі гандлюем, колькі ствараем пляцоўку для зносін,** бо ў краму набіваецца процьма бацькоў з дзецьмі. Усё для таго, каб яны маглі пасля прыйсці і працягнуць знаёмства з кнігай. З мінулай восені прывозім у «МДК» на экскурсію дзяцей-сірот. Яны бясконца здзіўленыя, што свет кніг — такі вялізны.

У маі распачынаем блок мерапрыемстваў «У лета — з кнігай». З 20 жніўня — фестываль «Хутка ў школу». Пэўна, ува ўсіх так атрымліваецца, што асноўныя грошы зарабляюцца падчас «школьнай кампаніі», у жніўні-кастрычніку.

Закрыццё фестывалю па традыцыі прывязваем да Сусветнага дня ляўшы. Калі Дзень ляўшы праводзіўся ўпершыню, зусім нечакана для нас з усёй Масквы з'ехалася процьма народу. Дагэтуль, на жаль, застаўся забабон, нібыта такія дзеці — не зусім нармальныя. І яны адчуваюць пэўную няўтульнасць, закамплексаванасць. Мы атрымалі мора ўдзячнасці менавіта таму, што дзеці-ляўшы змаглі пазнаёміцца.

Зазвычай год заканчваецца эстафетай «Адкрыйце кнігу дзецям», калі кожны дзень (а доўжыцца эстафета шэсць тыдняў) прысвечаны пэўнаму ўзросту і тэме. Да таго ж, арганізуем конкурсы сярод школ — збіраем сачыненні, малюнкі… Пасля нават выдаём альбомы з лепшымі работамі і дорым іх школам».

Бачна, што маскоўскія кнігарні робяць усё, каб дзеці чыталі. Але ці ёсць што чытаць?

«Маскоўскі Дом Кнігі» — гэта адзіная кнігарня, дзе прадстаўлена ўсё, што выходзіць на тэрыторыі Расіі. І з гэтага акіяна літаратуры сегмент дзіцячай складае усяго 5—6 тысяч найменняў. Мы робім стаўку на тое, што развіваць трэба менавіта дзіцячую літаратуру. Бо калі зацікавіць дзіця, а потым падтрымліваць гэтую цікаўнасць, ёсць шанц выгадаваць годнага чалавека. У Расіі **катастрафічна не хапае сучаснай літаратуры для падлеткаў.** Набярэцца максімум дзясятак аўтараў, якія пішуць кнігі пра падлеткаў, іх праблемы. Калі мы ўзнімалі пытанне "Гары Потэр — гэта добра ці дрэнна?", аўтары пачыналі злавацца: «Ды што мы глядзім на Захад, у нас свайго хапае!..» Магчыма. Але чамусьці гэтае «сваё» не цікавіць нашых дзяцей».

Але і гэта не самае страшнае. Сапраўдная бяда расійскага кнігагандлю ў тым, што яго самога, калі верыць дакументацыі, не існуе ўвогуле.

«Так склалася, што калі кнігарні выправіліся ў самастойнае плаванне, у органах дзяржстатыстыкі выпаў радок «кніжны гандаль». І сёння ніхто не ведае, якія аб'ёмы ў кніжным гандлі, якая колькасць кнігарняў у Расіі. Ёсць хіба што дадзеныя, якія сабралі самі гандлёвыя сеткі. Па нашых падліках, калі ў савецкія часы ў Расіі было каля 9 тысяч кнігарняў, то сёння засталося менш як 2 тысячы. І гэта на 140 мільёнаў чалавек. **Мы стаім на мяжы катастрофы.** Страціўшы правы на льготную арэнду, кнігарні проста зачыняюцца, бо як камерцыйныя структуры выжыць не могуць. Суадносіны кніжных і не кніжных тавараў у рэгіянальных крамах, якія ўжо ледзь дыхаюць, зніжаюцца. Калі раней было 70/30, то цяпер большасць кнігарняў заявіла, што суадносіны будуць іншыя: 40/60 у лепшым выпадку. І калі выдавецтвы пакуль што выконваюць план, то распаўсюджваць іх прадукцыю проста не будзе дзе. Гады два таму зруйнавалася сетка, якая аб'ядноўвала амаль 500 кнігарняў. Цяпер іх намагаюцца рэанімаваць. У мінулым годзе заявіла пра сваё банкруцтва выдавецтва «Арыстэй», якое таксама трымала кнігарні.

Такое становішча вымусіла нас сустрэцца з міністрам гандлю і міністрам культуры Расіі. Мы патрабавалі даць кнігарням належны статус. «Маскоўскі Дом Кнігі» адносіцца да Міністэрства сувязі і масавых камунікацый Расійскай Федэрацыі. Але калі мы прыходзім туды, нам кажуць: чаго вы сюды прыйшлі, вы да нас ніякага дачынення не маеце. То бок, **кнігагандаль увогуле выпаў з эканомікі краіны.** Новы міністр культуры, Уладзімір Мядзінскі — з пісьменнікаў і таму падтрымлівае ідэю аддаць кнігарні пад кантроль Мінкульту. Спадзяёмся, такім чынам атрымаецца спыніць падзенне. Бо наступіла якраз тая крытычная кропка, пасля якой — невядома што».

Здавалася б, у такіх, мякка кажучы, складаных эканамічных умовах аптымальным варыянтам будзе электронная кніга. Ёй не патрэбныя ні складовыя памяшканні, ні кнігарні, утрыманне якіх, у сваю чаргу, вымагае вялікіх сродкаў. Але ці зможа электронная кніга замяніць папяровую? У Надзеі Міхайлаўны на гэты конт адказ адназначны: не.

«Што датычыць электроннай кнігі, я лічу, што яна ніколі не заменіць друкаваную, хіба што зойме пэўны працэнт у агульным аб'ёме кнігапродажу. Які — сказаць складана. У свой час таксама казалі, быццам бы тэлебачанне заменіць усё — кіно, тэатр, кнігі. Не замяніла. Тое ж самае і цяпер. Амерыканцы на апошняй кніжнай выстаўцы, мінулым летам, заявілі, што максімальная роля электронных кніг — 5 працэнтаў. Дарэчы, яны ўвогуле здзівіліся такому пытанню. У Германіі лічаць, што электронная кніга зойме 2 працэнты. Увесь гэты вэрхал вакол страху, што электронная кніга заменіць друкаваную, створаны штучна, для таго, каб адвесці вочы ад сапраўднай бяды. Працей перавесці размову ў іншую плоскасць, чым вырашаць праблему.

Аднак калі чалавек не будзе чытаць, ён не будзе інтэлектуальна расці. А калі ён не будзе інтэлектуальна расці — гэта дэградацыя нацыі».

## Чытальная зала

У выдавецтве «Чатыры чвэрці» пабачыла свет кніга **вершаў і санетаў Змітрака Марозава «Материнской молитвенной речью»**. На рускую мову творы паэта пераклаў Андрэй Цяўлоўскі, а прадмову да выдання напісаў доктар філалагічных навук прафесар Вячаслаў Рагойша.




Беларускі чытач добра знаёмы з творчасцю паэта, што не дзіўна, бо вершы і санеты Змітрака Марозава надзвычай кранальныя, напоўненыя шчырымі пачуццямі кахання, любові да роднай зямлі, прыроды. Больш за тое, менавіта ён напісаў першы ў еўрапейскай літаратуры вянок вянкоў санетаў «Апакаліпсіс душы». Шэраг кніг паэта адзначаны рэспубліканскімі прэміямі ў галіне літаратуры, а многія яго творы ўключаны ў школьную праграму, падручнікі і дапаможнікі для вучняў і студэнтаў. Думаецца, і ў рускамоўным перакладзе вершы Змітрака Марозава знойдуць свайго адданага і зацікаўленага чытача.

Гэтае выданне пабачыла свет напрыканцы мінулага года, адразу атрымаўшы прэстыжныя ўзнагароды і, галоўнае, увагу і прызнанне чытачоў. Прэзентацыя альбома **«Помнікі мастацкай культуры Беларусі»**, што выйшаў у выдавецтве «Беларусь», прайшла ў Музеі старажытнабеларускай культуры




Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі. Адметна і тое, што ў межах прэзентацыі кнігі была адкрыта выстаўка адрэстаўраваных абразоў з калекцыі музея. Як падкрэсліў падчас выступлення аўтар канцэпцыі і складальнік альбома, кандыдат мастацтвазнаўства Барыс Лазука, ідэя выстаўкі заключаецца ў тым, каб аддаць даніну павагі мастакам-рэстаўратарам, чыя праца дазволіла вярнуць Беларусі старажытныя помнікі айчыннай мастацкай культуры. З іншага боку, выстаўка паказвае і ўвесь працэс рэстаўрацыі старых ікон. Бо сабраныя падчас экспедыцый культурныя каштоўнасці часта знаходзіліся ў дрэнным стане і патрабавалі неадкладнай кансервацыі і паступовага аднаўлення. З дня заснавання музея над імі працуюць мастакі-рэстаўратары Ларыса Брагілеўская і Аляксей Пуцінцаў.

**Чэслава ПАЛУЯН**

## На паліцы

# Радзімазнаўчыя абсягі

Максім ПРЫТЫКА

Слонім здаўна быў цэнтрам асветніцтва, горадам, дзе ва ўсе часы знаходзіліся руплівыя збіральнікі памятак зямлі беларускай. Згадаем хаця б некаторых гісторыкаў, пісьменнікаў, людзей, чыё чулае стаўленне да слова прыносіла плён усяму грамадству, рабіла Слонім багацейшым і святлейшым, пашырала духоўна-прасторавыя межы гэтай старонкі. Іосіф Стаброўскі, Гальяш Леўчык, Сяргей Новік-Пяюн, Анатоль Іверс, Алег Лойка, Янка Саламевіч, Мікола Арочка, Васіль Супрун, Іван Сяргейчык... Здаецца, імёнаў можна назваць безліч.

У кожнай са згаданых асоб — свая повязь са слонімскім краем. Мікола Арочка шмат гадоў жыў там, пакінуўшы Мінск. У Слоніме дажываў свой век Алег Лойка. У вялікі вырай паляцеў са слонімскай вёсачкі празорлівы даследчык беларускай культуры, літаратуры Янка Саламевіч. І ці не самая яркая зорка ў асяродку гэтых імёнаў — Сяргей Чыгрын, які нарадзіўся ў вёсцы Хадзявічы і доўгія гады жыве ў Слоніме. Драматург, перакладчык, публіцыст, паэт, гісторык, руплівы журналіст, які гэтыя і іншыя свае «прафесіі» паставіў на службу аднаму — і галоўнаму — клопату: краязнаўчай рабоце. Які з рэгіянальнага краязнаўца вырас у дасведчанага, высокапрафесійнага збіральніка гістарычнай памяці беларускай культуры, літаратуры, мастацтва. Пераконвае ў гэтым і новая кніга Сяргея Чыгрына — «Сярод сваіх людзей». Складзеная з матэрыялаў розных жанраў, яна ўяўляе сабою шырокае мазаічнае палатно для стварэння радзімазнаўчага партрэта нашай Айчыны.

Асноўным раздзелам кнігі папярэднічае нарыс С. Чыгрына «З аўтабіяграфіі аўтара кнігі». Асабліва важны гэты тэкст для таго чытача, якому даводзіцца ўпершыню знаёміцца з аўтарам. А мы звернем увагу на адну толькі акалічнасць — пералічым кнігі, якія напісаў і выдаў Сяргей Чыгрын: «Янка Купала і Слонімшчына» (1993), «Родам са Слонімшчыны» (2003), «Паклікаsuccessfully на родны парог» (2005), «Чамяры і чамяроўцы» (2006), «У пошуках слонімскіх скарбаў» (2007), «Беларуская Беласточчына» (2008), «З беластоцкай зямлі» (2008), «Мастак Антон Карніцкі» (2009), «Жыў роднай песняй» (2010), «Альбярцін» (2011), «Па слядах Купалы і Коласа» (2012), «Такі іх лёс» (2012), «Слонімскія падмуркі» (2012)... Дадайце яшчэ некалькі зборнікаў вершаў: «Шчырая Шчара» (1993), «Горад без цябе» (1999), «Лірыка» (2007), «Камень Міндоўга» (2009). Пагадзіцеся, плён уражлівы!




*Чыгрын, С. Сярод сваіх людзей: літаратурна-краязнаўчыя артыкулы, гутаркі, перапіска / Сяргей Чыгрын. — Мінск: Кнігазбор, 2012. — 236 с.*

Новая кніга — «Сярод сваіх людзей» — падзелена на чатыры раздзелы: «Сцежкамі Бацькаўшчыны» — пра ўраджэнцаў Беларусі, памежных земель, лёс якіх, як правіла, быў звязаны з іншымі, часам вельмі далёкімі ад Айчыны старонкамі; «Гутаркі» — дыялогі пісьменніка з Анатолем Клышкам, Алесем Сяроржкіным, Анітай Барутай-Садкоўскай, Віталем Скалабанам, Віктарам Шведам, Валерыем і Нінай Анішчанкамі, Сяргеем Худзяевым; «Пра кнігі» — рэцэнзіі на краязнаўчую і мастацкую літаратуру апошніх гадоў; «Ліставанне» — пра эпісталярыю, якая сабралася ў Сяргея Чыгрына ў выніку стасункаў з Лявонам Луцкевічам, Лявонам Шпакоўскім-Случанінам, Міколам Канашам.

У першым раздзеле асабліва ўражлівым падаецца нарыс «Янка Купала і Гродзеншчына». Сяргей Чыгрын па крупінках сабраў звесткі, што раскрываюць повязь народнага песняра Беларусі з Гродна, Гродзеншчынай. «Упершыню сюды ён завітаў на пачатку кастрычніка 1909 года», — піша аўтар кнігі «Сярод сваіх людзей». І далей: «...Менавіта Барыс Даніловіч прапануе Янку Купалу паехаць у яго маёнтак Бенін Наваградскага павета і стаць упраўляючым маёнтка. Купала ахвотна пагаджаецца. У кастрычніку 1909 года пясняр ужо ў Беніне». Там ён піша вершы «Памаліся», «З кірмашу», «Прад світаннем». 23 кастрычніка паэт стварае верш «Ноч за ночкай», пад рознымі псеўданімамі дасылае некалькі допісаў у «Нашу Ніву». Усё гэта было створана за нейкія дзевяць дзён у Беніне... Праўда, планы памяняліся. І з Беніна Купала паехаў на вучобу ў Пецярбург. Ужо з гэтага нарыса аўтар кнігі «Сярод сваіх людзей» пераконвае чытача: яго даследаванні і гэтым разам прадстаўляюць надзвычайную цікавасць для літаратурнага краязнаўства Гродзеншчыны. Шкада, што ў чарговы раз даводзіцца звяртаць увагу на невялікія тыражы кніг слонімскага даследчыка. Хіба ж не ў кожнай школе, дзе вывучаюць родную літаратуру, павінна быць кніга з расповедам пра «гродзенскія старонкі» ў жыцці і творчасці Янкі Купалы?! А тыраж — 100 асобнікаў.

Сярод матэрыялаў «Гутарак» асабліву цікавасць уяўляе дыялог пісьменніка з мовазнаўцам, літаратарам Анатолем Клышкам — «Буквар — першае свядомае далучэнне дзіцяці да роднай мовы». Праз размову дзвюх зацікаўленых асоб паўстае веліччасць той справы, якую ўсё жыццё робіць Анатоль Клышка. Беларускі «Буквар» ніколькі не меней знакавы, чым яго аналагі ў славянскім свеце, а часам — і шмат вышэй. Гутарка з Анатолем Клышкам пабудавана Сяргеем Чыгрыным такім чынам, што перад чытачом паўстае і аўтар першага школьнага падручніка, і ўся гісторыя беларускага «Буквара». І прадстаўлена гэтая гісторыя рэльефна, у параўнаннях. Чытаеш — і бачыш яскравую карціну тэмы, яе шырокія абсягі. Відаць па ўсім, што як вопытны публіцыст Сяргей Чыгрын рыхтуецца да сустрэч са сваімі суразмоўцамі, да гутарак з імі. Раздзел, пра які мы гаворым, выяўляе і надзвычайную шырыню зацікаўленняў краязнаўчага пісьменніка. Не выпадковымі з'яўляюцца яго сустрэчы з архівістам, гісторыкам беларускай літаратуры Віталем Скалабанам, выдаўцом газеты «Беларускі калекцыянер» Алесем Сяроржкіным. Чытаючы дыялог з апошнім, я нават падумаў, што з часам Сяргей Чыгрын выдасць кнігу пра калекцыянераў беларускіх. А чаму б і не?! Чаму б не распавесці пра Алега Лойку як пра філатэліста альбо пра Адама Мальдзіса як пра філакартыста? Ці — пра Янку Саламевіча як пра збіральніка календароў... Альбо — пра Вячаслава Рагойшу як пра гаспадара прыватнага краязнаўчага музея... Ці — пра Сяргея Панізніка як пра збіральніка беларускі...

Знаёмства з многімі матэрыяламі (не толькі ў раздзеле «Гутаркі», а і ўвогуле ў кнізе «Сярод сваіх людзей») пераконвае: Сяргей Чыгрын — генератар мноства творчых ідэй. І, пэўна ж, большасць з іх будзе рэалізавана. Працуе краязнаўчы пісьменнік са Слоніма настойліва і напружана. І, несумненна, наперадзе ў яго — шматлікія сустрэчы з чытачом.

## Да 100-годдзя «Вянка»

# «Праглядзіце гэты томік...»

Ірына МЫШКАВЕЦ

100 гадоў таму, у 1913-м, у Вільні выйшаў з друку маленькі сціпла аформлены зборнічак вершаў маладога беларускага паэта з Яраслаўля Максіма Багдановіча. Кніга называлася «Вянок», і ў самым першым вершы, своеасаблівым звароце да чытача, аўтар шчыра запрасіў на сустрэчу з мінулым, якое будзіць безліч згадак і ўспамінаў...

На працягу вось ужо стагоддзя інтарэс да кнігі, да асобных вершаў не тое што не знікае, а, наадварот, зборнік прыцягвае ўсё новага і новага чытача, твары застаюцца актуальнымі і зразумелымі чалавеку XXI стагоддзя. Пра гэта сведчаць такія факты: тры факсімільныя перавыданні разышліся ледзьве не імгненна. Інтарэс да кнігі выказваюць даследчыкі з Беларусі і замежжа, якія бяруць удзел у міжнародных навукова-практычных канферэнцыях. Сучасныя пісьменнікі ў сваёй творчасці таксама не абмінаюць М. Багдановіча. З'яўляюцца новыя музычныя творы на вершы паэта, прычым не толькі класічныя, але і сучасныя формы, як, напрыклад, поп-опера. Вершы зборніка «Вянок» неаднойчы былі ілюстраваны вядомымі майстрамі пэндзля і маладымі мастакамі.




Варта адзначыць асаблівую місію Літаратурнага музея Максіма Багдановіча па зборы, захаванні, вывучэнні, прэзентацыі і папулярызацыі творчай спадчыны паэта, у тым ліку і ўсяго таго, што звязана з кнігай вершаў. Мы запрашаем разам з намі правесці гэты год пад знакам «Вянка», адзначаць 100-годдзе кнігі вялікімі і маленькімі падзеямі.

Некалькі мерапрыемстваў хацелася б праанансаваць ужо цяпер, запрашаючы ўсіх да актыўнага ўдзелу і падтрымкі.

Існуе лацінскае выслоўе «Habent sua fata libelli», якое перакладаецца так: «І кнігі маюць свой лёс». Супрацоўнікі музея М. Багдановіча ўпэўнены ў гэтым на сто працэнтаў. Яшчэ рыхтуючыся да 90-годдзя «Вянка», мы пачалі шукаць арыгінальныя асобнікі, што захаваліся да нашага часу. Тады было ўстаноўлена месцазнаходжанне 24 кніг, якія захоўваюцца ў музеях, бібліятэках, архівах Беларусі і Расіі. Праца не спыняецца па сённяшні дзень, у каталогу інфармацыя ўжо пра 27 асобнікаў. Прыемна, што фонды музея папоўніліся двума экзэмплярамі «Вянка», мы чакаем новых знаходак і адкрыццяў.

Сёлета супрацоўнікамі музея М. Багдановіча распачаты культурна-адукацыйны праект «Рэлікт», мэта якога — прадставіць самыя каштоўныя здабыткі з фондаў музея. І, канечне, героем адной з імпрэз праекта стаў зборнік «Вянок».

На працягу года вас чакаюць літаратурна-музычныя вечарыны, прысвечаныя «Вянку», вершам-перакладам з французскай мовы, рукапіснаму зборніку вершаў «Зеленя», куды ўвайшлі пераклады вершаў «Вянка» на рускую мову. Прыхільнікаў мастацтва зацікавіць мастацка-дакументальная выстаўка «Праглядзіце гэты томік...».

Нашых шаноўных даследчыкаў, навукоўцаў запросім да ўдзелу ў навукова-практычнай канферэнцыі «Кніга новага жыцця», якая адбудзецца ў лістападзе, і «круглым стале», які мы рыхтуем сумесна з супрацоўнікамі бібліятэкі № 8 імя М. Багдановіча.

Не забыліся мы пра нашу будучыню — вучняў сярэдніх навучальных устаноў: для самых маленькіх плануем правесці фестываль саматробных кніжак-раскладанак, старэйшым прапануем лекцыю з мультымедыйнай прэзентацыяй «Вянок» Максіма Багдановіча». На працягу года мяркуем правесці два конкурсы: для старэйшых класаў ужо ў бліжэйшы час стартуе конкурс эсэ «Мой Максім Багдановіч». Усе вучні, ад 1 да 11 класа, змогуць паўдзельнічаць у конкурсе мастацкай творчасці «Адлюстраванні — Отражения», які мы будзем праводзіць сумесна з яраслаўскім музеем Максіма Багдановіча.

Мы вельмі ўдзячны супрацоўнікам газеты «Літаратура і мастацтва» за інфармацыйную падтрымку ўсіх нашых мінулых праектаў і, спадзяёмся, будучых. Упэўнены, што вы, паважаныя чытачы, на старонках газеты знойдзеце немала цікавых матэрыялаў, прысвечаных кнізе вершаў М. Багдановіча.

### *А вы ведаеце, што...*

...малюнак вокладкі са стылізаванымі кветкамі абраў Вацлаў Ластоўскі, адсюль з'явілася і назва «Вянок».

...у «Вянок» увайшлі еўрапейскія формы вершаў, раней не ўласцівыя беларускай літаратуры.

...у лісце да Ванды Лявіцкай у 1915 годзе Максім Багдановіч так ацэньваў свой зборнік: «...кніжка гэтая зусім маладая; вершы яе пісаліся з паловы 1909 да паловы 1912 гг., калі мне было 17-20 год. Але ў ёй усё ж такі ёсць і творчасць, і натхненне, і сур'ёзная праца».

...у «Вянок» М. Багдановіча не ўвайшоў раздзел «З чужое глебы», куды паэт меў намер змясціць пераклады з нямецкай, французскай, украінскай моў.

# Мінскі «кацёл». Крок да Вялікай Перамогі

Новая батальная дыярама «Мінскі кацёл» была прадстаўлена ў Беларускім дзяржаўным музеі гісторыі Вялікай Айчыннай вайны падчас адкрыцця выстаўкі «Айчыне служым», прысвечанай 95-годдзю Узброеных сіл Беларусі. Мінчане і шматлікія госці сталіцы змогуць убачыць адзін з драматычных момантаў вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў, апынуцца ў эпіцэнтры аперацыі «Баграціён» і стаць сведкамі разгрому групы армій «Цэнтр».

**Раіса МАРЧУК**

Так скрупулёзна і дакладна ўзнавіць кульмінацыю бітвы пад Мінскам атрымалася ў маскоўскай Студыі ваенных мастакоў імя Мітрафана Грэкава. Мастацкі кіраўнік праекта — Павел Рыжэнка. Адразу бачна, стваральнікі адказна падышлі да ажыццяўлення творчай задумы. Гістарычныя матэрыялы адпавядаюць рэчаіснасці: перад намі дакладныя ўзоры тэхнікі, узбраення, ваеннай вопраткі, дакументаў… Гукавое суправаджэнне дыярамы дапамагае зрабіць бітву больш рэальнай. А гул самалётаў, грукат танкаў і гук выбухаў — уявіць, што адбывалася тады пад Мінскам. Сапраўды, без хвалявання немагчыма глядзець на ўсё гэта.

— Стварэнне дыярамы — гэта працяг нашага плённага супрацоўніцтва з расійскімі творцамі,— адзначыў дырэктар музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Сяргей Азаронак.— І наогул, у нас склалася вельмі цеснае супрацоўніцтва паміж мастакамі Беларусі і Расіі. Іншы раз гучаць папрокі, чаму не айчынныя мастакі рыхтуюць тую ж дыяраму. Па-першае, гэта сумесная праца не толькі мастакоў, але і гісторыкаў, музейшчыкаў. Па-другое, у Беларусі з прафесійных баталістаў, якія займаліся буйнымі дыярамамі, застаўся толькі Барыс Аракчэеў, удзельнік Вялікай Айчыннай вайны і галоўны кансультант гэтага праекта. На мой погляд, мы разам з расіянамі і выпускнікамі Беларускай дзяржаўнай акадэміі мастацтваў Вольгай Мельнік-Малахавай і Антонам Вырвам змаглі рэалізаваць унікальны праект. Даволася чуць папрокі і за тое, што, маўляў, грошы, выдзеленыя на яго ажыццяўленне, пайшлі за мяжу. Лічу, падобныя меркаванні зусім беспадстаўныя, бо гэта наша агульная і вялікая Перамога.

Дыярама адлюстроўвае адзін з эпізодаў баявых дзеянняў пасля вызвалення Мінска, калі на ўсход ад горада ў акружэнне трапілі 105 тысяч немцаў 4-й і 9-й армій на чале з генералам Мюлерам. Баі па ліквідацыі «катла» працягваліся з 5 па 11 ліпеня 1944 г. Прычым гэта быў не «класічны» кацёл, як, напрыклад, пад Сталінградам. Асобныя групы варожых салдат спрабавалі вырвацца з акружэння ў розных месцах. На адным з участкаў — у напрамку на Гатава, Самахвалавічы і Возера — каля 800 чалавек пад камандаваннем Вінцэнта Мюлера фарсіравалі раку Пціч і дайшлі да вёскі Возера, але наткнуліся на штаб нашай 50-й арміі.

— На дыяраме паказаны ўвесь драматызм сітуацыі, у якой апынуўся вораг,— распавяла вучоны сакратар музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны Галіна Бабусенка.— Цэнтральнымі фігурамі з'яўляюцца танкісты, артылерысты, партызаны, а таксама палонны генерал Мюлер, якога вядзе ў штаб 50-й арміі сяржант Міхаіл Глотаў. Яго прозвішча добра вядома, за гэты подзвіг ён быў узнагароджаны ордэнам Славы III ступені. На дальнім плане бачны асобныя групы нямецкіх ваеннапалонных пад канвоем, на пярэднім — разбітая нямецкая тэхніка. Савецкія салдаты бяруць у палон праціўніка. У небе — перавага савецкай авіяцыі. Тут паказаны і шматнацыянальны склад Савецкай арміі. Падчас вайны Беларусь абаранялі і вызвалялі, змагаліся ў партызанскіх атрадах прадстаўнікі больш як 70 нацыянальнасцей.


Фота Кастуся Дробава
Фрагмент дыярамы «Мінскі кацёл».


Фота Кастуся Дробава
Беларускія партызаны дапамагаюць савецкім салдатам.

Многія здзіўляюцца: чаму на дыяраме «прысутнічаюць» і беларускія партызаны? Адказ просты: яны паказвалі нашым вайскоўцам незамініраваныя ўчасткі і прасёлачныя дарогі, па якіх без перашкод маглі прайсці танкі. У выніку разгрому мінскага «катла» ў палон трапілі каля 70 тысяч немцаў, 35 тысяч варожых салдат загінулі. Гэта было самае вялікае акружэнне праціўніка ў Беларусі, падчас якога савецкія салдаты разграмілі асноўныя сілы групы армій «Цэнтр».

— Праца над праектам ішла доўга — амаль два гады,— паведаміў Сяргей Азаронак.— Сам працэс стварэння дыярамы расцягнуўся амаль на год. У выніку мы атрымалі выдатны твор, які арганічна ўпішацца ў нашу новую экспазіцыю. Я задаволены тым, што сёння музей выступае той пляцоўкай, дзе ўзаемадзейнічаюць дзве студыі: маскоўская і Студыя ваенных мастакоў Беларусі. Расійскай, якая выдатна абсталявана і задумвалася менавіта для стварэння дыярам, у наступным годзе споўніцца 75 гадоў. Зразумела, яе мастакі назапасілі вялікі вопыт у ажыццяўленні падобных грандыёзных праектаў — стварылі больш як 70 дыярам. Спадзяюся, што нашы маладыя творцы, якія працавалі ў рамках дыярамнага мастацтва практычна на адным узроўні з рускімі калегамі, змогуць ствараць падобныя работы і ў іншых музеях Беларусі.

Прадстаўленая дыярама, якая яшчэ будзе дапрацоўвацца, з часам перамесціцца ў новы будынак музея, які ўзводзіцца каля стэлы «Мінск — горад-герой» на праспекце Пераможцаў.

— Мы дамаўляліся з будаўнікамі пра тое, што новы будынак будзе здадзены ў эксплуатацыю ў студзені бягучага года, але сёння ў будучых выставачных залах на другім паверсе ляжыць снег,— зауважыў Сяргей Іванавіч.— На жаль, усе нашы планы парушаны, таму супрацоўнікі музея не могуць пакуль рабіць мантаж гэтай дыярамы ў новых памяшканнях.

Дарэчы, «Мінскі кацёл» — гэта другая дыярама, якую стварылі члены Студыі ваенных мастакоў імя Мітрафана Грэкава для музея гісторыі Вялікай Айчыннай вайны. Першая, прысвечаная абароне Мінска 25 — 28 чэрвеня 1941 года, была адкрыта для наведвальнікаў летась.

*Культурны дыялог*

# Шляхі ўзаемаразумення

Магілёў у 2013 годзе абвешчаны культурнай сталіцай не толькі Беларусі, але і СНД. І зусім не выпадкова горад на Дняпры стаў месцам правядзення яркіх і маштабных культурных падзей, вядомых не толькі ў нашай краіне, але і далёка за яе межамі.

**Вольга СЕМЧАНКА**

Сярод добрых сяброў горада можна назваць многія гарады Расіі, Украіны, іншых краін СНД, у іх лік уваходзіць і Баку. Культурныя стасункі з азербайджанскай сталіцай асабліва актывізаваліся летась, і ёсць усе падставы да таго, што яны будуць умацоўвацца і пашырацца.

Нядаўна Магілёў наведаў вучоны сакратар, галоўны спецыяліст па статыстыцы і сацыялагічных даследаваннях Навукова-метадычнага цэнтра па культуразнаўстве Міністэрства культуры і турызму Азербайджанскай Рэспублікі, рэдактар навуковага, метадычнага і публіцыстычнага часопіса «Сучаснае культуразнаўства», культуролаг-япаназнавец Абульфаз Бабазадэ, каб пазнаёміцца з вопытам работы магілёўчан у галіне захавання традыцыйнай культуры.

Азербайджанскаму навукоўцу ўжо даводзілася бываць у розных рэгіёнах Беларусі, а ў красавіку мінулага года ён пазнаёміўся з культурнай спадчынай Магілёўшчыны падчас міжнароднага форуму «Традыцыйная культура як стратэгічны рэсурс устойлівага развіцця грамадства», які праводзіўся Магілёўскім абласным метадычным цэнтрам народнай творчасці і культурна-асветнай работы.

Чаму госця з Баку зацікавіла аўтэнтычная беларуская культура, у пэўнай ступені экзатычная для Азербайджана? Чым яго прывабіла Магілёўшчына?

— Як даследчык я лічу, што на тэрыторыі Усходняй Еўропы беларуская культура — адна з найбагацейшых, — прызнаўся Абульфаз Бабазадэ. — Вельмі важна захоўваць усё, чым жылі нашы продкі, таму што нацыянальная самасвядомасць фарміруецца толькі дзякуючы гэтай памяці. Культура — асаблівая мова, ключ да ўзаемаразумення паміж народамі, таму я разлічваю на працяг культурнага супрацоўніцтва паміж Беларуссю і Азербайджанам. У нашых народаў вельмі шмат агульнага. Прайшло больш як 20 год з таго часу, калі нашы краіны набылі незалежнасць, але засталася патрэба ў культурным супрацоўніцтве. Прынамсі, у тым, каб беларуская культура была добра прадстаўлена ў Азербайджане, а азербайджанская ў сваіх традыцыях, звычаях, касцюмах, нацыянальнай кухні была як мага паўней паказана на беларускай зямлі. Падчас майго візіту ў Магілёў разам з кіраўніцтвам абласнога метадычнага цэнтра і ўпраўлення культуры аблвыканкама мы змаглі канкрэтызаваць тыя ідэі і планы, якія будзем ажыццяўляць у рамках заключанага пагаднення аб культурным супрацоўніцтве. Зазначу, што яно будзе шматбаковым: мы падпісалі адпаведны мемарандум з Украінай, Расіяй, Кіргізіяй і плануем стварыць міжнародны цэнтр па культуразнаўстве.

Дарэчы, у снежні мінулага года дырэктар Магілёўскага абласнога метадычнага цэнтра Алег Хмялькоў наведаў азербайджанскую сталіцу і ўзяў удзел у II Міжнароднай навуковай канферэнцыі «Культура ўстойлівага развіцця: глабальныя і рэгіянальныя аспекты». Ён распавёў калегам пра працэсы, што адбываюцца ў Магілёўскай вобласці, засяродзіўшы ўвагу на тым, што асновай падтрымкі, захавання і актуалізацыі традыцыйнай культуры ў рэгіёне сталі інавацыі — а менавіта фестывальны рух і праектная дзейнасць устаноў культуры.

— У культурным дыялогу паміж Баку і Магілёвам — вялікія перспектывы, — зазначыў Алег Хмялькоў. — Напрыклад, на Магілёўшчыне на гэты год запланавана шмат цікавых праектаў. Так, у новым амфітэатры ў Горках будзе ладзіцца фальклорнае свята з удзелам дзяржаў СНД, і мы абмеркавалі магчымасць удзелу ў ім творчых калектываў з Азербайджана. У маі ў Магілёве адбудзецца II Міжнародны форум па традыцыйнай культуры — азербайджанскі бок таксама возьме ў ім удзел, далучыцца да арганізацыі форуму. Мы запрасілі нашых сяброў прыехаць на фестываль сямейнай творчасці ў Глуску. Супрацоўніцтва будзе адбывацца ў кірунку не толькі традыцыйнага, але і прафесійнага мастацтва, напрыклад, у рамках фестывалю «Залаты шлягер» у Магілёве і інш.

Згодна з заключаным пагадненнем, Навукова-метадычны цэнтр па культуразнаўстве Азербайджанскай рэспублікі і Магілёўскі абласны метадычны цэнтр будуць абменьвацца інфармацыйнымі і метадычнымі матэрыяламі, арганізоўваць анлайн-нарады, ладзіць абменныя канцэрты творчых калектываў, ажыццяўляць сумесныя навукова-даследчыя работы і творчыя праекты, праводзіць семінары, майстар-класы, навукова-практычныя канферэнцыі і іншыя мерапрыемствы. Чакаецца, што гэтае супрацоўніцтва будзе актыўным, плённым і ўзаемаўзбагачальным.

# Узор сапраўднай жаноцкасці

**У лютым адбыліся абменныя гастролі паміж Вялікім тэатрам Беларусі і Нацыянальнай операй «Эстонія». Беларускі і эстонскі калектывы абмяняліся гарадамі, пляцоўкамі і публікай амаль на цэлы тыдзень, каб прадставіць у Таліне і Мінску лепшыя оперныя і балетныя спектаклі. Трыумфальным завяршэннем беларускай часткі гастроляў стаў паказ оперы «Мадам Батэрфляй».**

**Вольга НІКАЛАЕЎСКАЯ, фота прадастаўлена НАВТ оперы і балета Рэспублікі Беларусь**



Значная частка велізарнага поспеху спектакля па праве належыць выканаўцы галоўнай партыі Чыа-Чыа-сан — салістцы Вялікага тэатра Беларусі Таццяне Гаўрылавай.

Для спявачкі гэта быў вельмі хвалюючы этап яе прафесійнай кар'еры: на гастролях у Таліне яна ўпершыню выканала адну з самых складаных і пачэсных партый класічнага опернага рэпертуару. Вобраз мадам Батэрфляй увасаблялі самыя лепшыя спявачкі свету: М. Біешу, Г. Вішнеўская, М. Калас… Кранальная гісторыя кахання японскай жанчыны да амерыканскага марака, створаная геніем Пучыні на лібрэта Дж. Джакозы і Л. Ілікі, уваходзіць у рэпертуар амаль усіх оперных тэатраў, а партыя Чыа-Чыа-сан з'яўляецца адной з самых прыгожых і прыцягальных, уражваючы псіхалагічнай глыбінёй і бясконцай жаноцкасцю. Сакрэт гэтага дзіўнага жаночага вобраза мы паспрабавалі раскрыць разам з Таццянай Гаўрылавай.

**— У спектаклі Вялікага тэатра «Мадам Батэрфляй» Чыа-Чыа-сан спявалі многія выдатныя спявачкі, нават сама М. Біешу, якая прызнана лепшай выканаўцай гэтай партыі. Віншую вас з тым, што цяпер і вы далучыліся да ліку шчаслівых!**

— Дзякуй. Дарэчы, я нават глядзела той спектакль з удзелам М. Біешу. Я была зусім юнай дзяўчынай, вучылася ў музычным ліцэі і нават не ўяўляла, што аднойчы сама буду спяваць Чыа-Чыа-сан.

**— Калі вы рыхтавалі гэту партыю, ці арыентаваліся на вядомых спявачак?**

— Не. На жаль, у мяне было няшмат часу на падрыхтоўку партыі для гастроляў у Эстоніі. Гэта не вельмі добра, бо такі складаны матэрыял варта доўга і ўдумліва развучваць. Але, магчыма, і лепш, што я арыентавалася толькі на ўласнае разуменне гэтага вобраза, і мая Чыа-Чыа-сан атрымалася менавіта такой, як я сабе ўяўляю.

Галоўнае было зразумець, чаму гэту жанчыну звалі Батэрфляй. Шматлікія артысткі лічаць, што яна была маладая, лёгкая, як матылёк. На мой погляд, гэта павярхоўнае ўспрыманне. Мне здаецца, Батэрфляй — сутнасць душэўная: у яе вельмі рэзкія пераключэнні ад спакойнага стану да хвалявання, ад хвалявання да гневу, ахвярнасць і ў той жа час нейкія надрыў, бясконцая мяккасць і адначасова злосць, жаданне даказаць нешта, абараніць сябе, сваё дзіця. У гэтай яе эмацыянальнай супярэчлівасці і можна знайсці адказ, чаму Чыа-Чыа-сан празвалі Батэрфляй: яна быццам матылёк, які мітусіцца. Яна заключана ў рамкі японскіх традыцый, дзе трэба трымаць свае эмоцыі ўнутры, але душа яе імкнецца на волю.

**— Якія рысы характару Батэрфляй блізкія вам асабіста?**

— Яна — узор сапраўднай жаноцкасці. Мне блізкая і яе вера ў тое, што каханы — самы лепшы ў свеце, а таксама яе стаўленне да дзіцяці. Чыа-Чыа-сан пазбавілі кахання, маёмасці, вымусілі зноў стаць гейшай, але не гэта самае страшнае. Цяжэй за ўсё яна перанесла тое, што ў яе забралі сына — апошняе, самае святое і дарагое.

**— «Мадам Батэрфляй» — гэта практычна монаспектакль, у якім галоўная жаночая партыя вельмі складаная не толькі з тэхнічнага боку, але і з псіхалагічнага. Ці ёсць сярод шматлікіх спявачак, якія выконвалі гэтую ролю хтосьці, хто вас найбольш уразіў?**

— Кітаянка Й. Хуанг. Мне давялося паглядзець мастацкі фільм з яе ўдзелам. Спявачка валодае лёгкім і невялікім па аб'ёме голасам. Але ўласцівая ёй далікатнасць голасу прымушае слухача плакаць з першых секунд, прадчуваючы трагедыю. Мне прыйшла думка, можа, быць крамольная, што кампазітар задумваў гэтую оперу не для драматычнага сапрана, а для лірычнага. У ёй вельмі «шчыльны» аркестр, але калі голас «палётны», то лірычная афарбоўка ідзе яму толькі на карысць. Чыа-Чыа-сан павінна быць невыразна пяшчотнай, мяккай і ранімай ва ўспрыманні слухача. І тым кантрасней будуць тыя месцы, дзе яна дэманструе свой унутраны японскі, самурайскі, калі можна так сказаць, стрыжань. Я не хачу сцвярджаць, што моцныя галасы, якія традыцыйна спяваюць гэтую партыю,— дрэнна. Тым больш каштоўна, калі вялікі аб'ёмны голас можа спяваць піянісіма, быць кранальным і мяккім.

**— Вы працавалі ў Таліне з запрошаным з оперы Брно салістам Іванам Шупенічам, які выконваў партыю Пінкертона. Якім атрымаўся ваш сцэнічны дуэт?**

— У свой час Іван Шупеніч скончыў беларускую кансерваторыю, стаў лаўрэатам шматлікіх міжнародных вакальных конкурсаў, затым яго запрасілі ў Нацыянальны оперны тэатр Брно (Чэхія), дзе ён працуе ўжо шмат год. Паколькі Іван «наш чалавек», то не забывае калег. Мы працавалі з ім у «Мадам Батэрфляй» падчас гастроляў Вялікага тэатра ў Эстоніі, але літаральна 16 сакавіка ён будзе зноў спяваць у нашым спектаклі партыю Пінкертона — ужо ў Мінску. Гэта вельмі прафесійны чалавек, і што да акцёрскага ўзаемадзеяння, мне было вельмі зручна з ім. Гэта важна, усё ж такі ў нас любоўны дуэт, дзе абавязкова павінна быць прыцягненне паміж партнёрамі.

Але трэба дадаць, што калі я ўводзілася ў гэты спектакль у Мінску, то рэпеціравала са сваім мужам Э. Мартынюком. І ад яго ўпершыню пачула, што мне проста неабходна вывучыць гэтую партыю. Ён «пілаваў» мяне пастаянна, пакуль я не згадзілася паспрабаваць, адкінуўшы думкі пра тое, што я лірычнае сапрана і звычайна спяваю «лёгкі» рэпертуар. Цяпер я спадзяюся, што мой першы спектакль у Мінску адбудзецца якраз з удзелам Э. Мартынюка. «Мадам Батэрфляй» вельмі любіць публіка, і яго даюць вельмі часта. Думаю, выйду ў ім на родную сцэну ў красавіку.

**— Якія ў вас далейшыя творчыя планы?**

— На дадзены момант тэатр рыхтуе прэм'еру оперы Пучыні «Турандот». Яе можна будзе ўбачыць у канцы красавіка, рэжысёр М. Панджавідзэ. Павінна атрымацца вельмі цікавая прэм'ера з нязвыклым для гэтай оперы фіналам, таму раю абавязкова яе пабачыць.

# Чароўнае Палессе

**Усходняе Палессе з'яўляецца сапраўднай невычэрпнай крыніцай беларускіх фальклорных традыцый. Яно захапляе навукоўцаў, творцаў і, як магніт, прыцягвае шматлікіх аматараў прыроды.**

**Яўген ШУНЕЙКА**

*Фота Кастуся Дробава*



*На выстаўцы.*

У пасёлку Ляскавічы Петрыкаўскага раёна, які знаходзіцца на ўзбярэжжы Прыпяці, летась быў адкрыты ўнікальны «Музей прыроды». У двухпавярховым будынку краязнаўчага цэнтра захоўваюцца шматлікія прыродныя экспанаты, аздобленыя жывапіснымі панарамамі надпрыпяцкага краю. Наватарская праца аб'яднала мінскіх жывапісцаў і дызайнераў, якім удалося стварыць адзіны ў сваім родзе музейны вобразна-непаўторны свет. У зацемненых памяшканнях прыцягваюць увагу сонечна-яскравыя панарамы: за шклом сканцэнтравана багацце беларускай флоры, фаўны. Пераход ад прасторавых форм да маляваных практычна не заўважальны для вока. Але не кожная адмысловая віртуальна-інфармацыйная прастора, стварэнню якой спрыяюць сучасныя электронныя тэхналогіі, можа падараваць гледачам такія жывыя і незабыўныя ўражанні.

Але на гэтым творчае супрацоўніцтва не завяршылася. Аўтары выдатнай музейнай скарбонкі ў Ляскавічах мастакі І. Арлоў, В. Барабанцаў, А. Бяляўскі, У. Капшай, У. Кожух, В. Мурашка, А. Суша сёлета падрыхтавалі супольную жывапісную выстаўку «Гістарычнае маляўнічае Палессе» пад гасцінным дахам Нацыянальнага гістарычнага музея Рэспублікі Беларусь. Экспазіцыю складаюць дзясяткі краявідаў, напісаных з натуры. Сапраўды, палескі край такі шчодры на непаўторныя пейзажныя матывы, што іх можна адлюстроўваць у самых розных стылявых і каларыстычных інтэрпрэтацыях. Сярод прадстаўленых работ ёсць шмат творчых здабыткаў, якія прыкметна ўзбагачаюць айчынны жывапіс. Нельга не прыгадаць краявіды гаёў, залітых сонечнымі промнямі, балотных мясцін з дрыгвою, не кранутых «асушэннямі», запаветных вясковых выспаў, да якіх можна дабрацца толькі на чоўне: у мастакоў атрымалася данесці да сталічных гледачоў уласнае бачанне палескага краю. Вельмі дарэчы ў экспазіцыі побач з мастацкімі творамі супрацоўнікі музея прадставілі этнаграфічную інсталяцыю з чоўнаў, разнастайнымі народнымі вырабамі, рыбацкімі прыладамі і г. д.

Выходзіць з 1932 года
У 1982 годзе газета ўзнагароджана ордэнам Дружбы народаў
Заснавальнікі: Міністэрства інфармацыі Рэспублікі Беларусь, ГА «Саюз пісьменнікаў Беларусі», РВУ «Выдавецкі дом «Звязда»

Галоўны рэдактар Таццяна Мікалаеўна СІВЕЦ



Юрыдычны адрас:
220013, Мінск,
вул. Б. Хмяльніцкага, 10-а
Адрас для карэспандэнцыі:
220034, Мінск, вул. Захарава, 19
Тэлефоны:
галоўны рэдактар — 284-66-73
намеснік галоўнага рэдактара — 284-66-73
Аддзелы:
публіцыстыкі — 284-66-71
крытыкі і бібліяграфіі — 284-44-04
прозы і паэзіі — 284-44-04
мастацтва — 284-82-04
навін — 284-44-04
аддзел «Кніжны свет» — 284-66-71
бухгалтэрыя — 287-18-14
Тэл./факс — 284-66-73
E-mail: lim_new@mail.ru
Адрас у Інтэрнэце:
www.lim.by



Набор і вёрстка камп'ютарнага цэнтра РВУ «Выдавецкі дом «Звязда».
Выходзіць раз на тыдзень па пятніцах.
Выдавец:
Рэдакцыйна-выдавецкая ўстанова «Выдавецкі дом «Звязда».
Друкарня Рэспубліканскага ўнітарнага прадпрыемства «Выдавецтва «Беларускі Дом друку» г. Мінск, пр. Незалежнасці, 79.
Індэкс 63856
Кошт у розніцу — 3000 рублёў
Наклад — 2762
Умоўна друк. арк. 3,72
Нумар падпісаны ў друк 6.03.2013 у 11.00
Газета зарэгістравана ў Міністэрстве інфармацыі Рэспублікі Беларусь Рэгістрацыйнае пасведчанне № 7 ад 22.07.2009 г.
Заказ — 1021
Д 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
ISSN 0024-4686